# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14
Цана: Нямеччына: на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; ЗША і Канада: на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. Ангельшчына й Аўстралія: 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. Бэльгія: 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. Францыя: 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. Аргентына: 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Калоскамі» ўважаюцца за падвойныя.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND” |
|---|---|---|

№ 20-21 (456-457) — Нядзеля 24 травеня 1959 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 13


# У гадавіну сьмерці Багдановіча

25 траўня 1917 году памёр адзін з найвыдатнейшых беларускіх паэтаў нашаніўскае пары Максім Багдановіч, маючы за сабой усяго дваццаць пяць гадоў жыцьця. Ня гледзячы на гэткі кароткі свой век, а яшчэ карацейшы пэрыяд сваей творчасьці, які абыймаў усяго толькі дзесяць год, роля й значэньне Багдановіча ў беларускай літаратуры вялізарная й выняткова́я.

Адзначаючы 40-ую й 41-ую гадавіну сьмерці паэты ў пазалеташнім і леташнім годзе ў «Бацькаўшчыне», аўтар гэтых радкоў у сваіх артыкулах пісаў: **«Мы прывыклі на чале нашае ня толькі нашаніўскае, але й наагул навачаснае беларускае літаратуры ставіць толькі двух вялікіх і вядучых яе прадстаўнікоў — Купалу й Коласа, прыносячы гэтым не малую шкоду нашай літаратуры й робячы незавіненую крыўду Багдановічу. Не аб вядучай двойцы, але аб тройцы, якая ўзаемна сябе дапаўняе і ў роўнай меры рэпрэзэнтуе нашую навачасную літаратуру, гаварыць належыцца: аб Купале, Коласе й Багдановічу».**

Калі гэтыя словы паўтараем і сёлета, у 42-ую гадавіну сьмерці паэты, дык робім гэта ня прыпадкова, але зь цьвёрдым намерам падчыркваць неабходнасьць поўнае рэвізіі паглядаў на ролю й значэньне Багдановіча ў нашай літаратуры й ягонае ў ёй месца. Бо яшчэ й сяньня, пасьля паяўленьня мноства навукова-крытычных працаў, — праўда ад пачатку трыццатых гадоў забароненых бальшавікамі —, у якіх гэтая роля й значэньне Багдановіча дастаткова паказаныя, у ўяўленьні шырэйшай грамадзкасьці ў прыраўнаньні з Купалам і Коласам Багдановічу адводзіцца задняе месца.

Што Багдановіч быў недаацэньваны яшчэ пры сваім жыцьці, у гэтым нічога дзіўнага. Ён быў вырас панад узроўню сучаснага яму пакаленьня, а ягонае разуменьне літаратурнага мастацтва й срогія вымаганьні ад яго выходзілі далёка паза нормы, якіх тады ў нас агульна стаўляліся перад паэтамі й пісьменьнікамі. Гэтым таксама можна вытлумачыць ня менш цікавы й прамаўляючы якраз у карысьць Бегдановіча факт, што ўплыў ягоны на іншых паэтаў пры жыцьці быў значна меншы, чымся пасьля ягонай сьмерці, тады калі ў Купалы й Коласа было зусім наадварот. Ня будзем гаварыць аб гэтым пасьмертным уплыве Вагдановіча на творчасьць паасобных нашых паэтаў. Даволі ўспомніць, што калі паўсталае ў 1926 годзе літаратурнае згуртаваньне «Ўзвышша» галоўным сваім заданьнем паставіла ўзьняцьце беларускае літаратуры на высокую мастацкую ўзроўню і зраўнаньне яе ў гэтых дачыненьнях зь літаратурамі эўрапэйскага Захаду, дык у вялікай меры сталася гэта пад уплывам Багдановічавае творчасьці.

Купала й Колас вызначаюцца бясспрэчна вялікім прыроджаным талентам і дарам паэтычнага слова. Таму, хаця ня маючы ня толькі літаратурнае асьветы, але й вельмі абмежаваную асьвету агульную, змаглі яны заняць вядучае месца ў беларускай літаратуры, а дзякуючы ідэйнай глыбіні й грамадзкай накіраванасьці сваей творчасьці выдатна ўзмацнялі беларускі адраджэнскі рух ды зрабілі вялікі ўплыў на фармаваньне ягонае ідэялёгіі. Багдановіч, апрача гэтых якасьцяў, здабыў яшчэ й высукую літаратурную асьвету, шырокае веданьне эўрапэйскай і часткава сьветавай літаратуры ды наагул вызначаўся высокай эстэтычнай культурай. Дзякуючы гэтым няроўным кваліфікацыям, Купала й Колас, хаця бясспрэчна большую адыйгралі ролю ў беларускім адраджэнскім руху, але іхны літаратурны ўплыў на новую гэнэрацыю беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў скончыўся яшчэ за іхнага жыцьця. Затое ўплыў Багдановіча на далейшае разьвіцьцё беларускае літаратуры, як было ўжо сказана, пачаўся толькі пасьля сьмерці паэты.

Хаця Купала й Колас дзякуючы свайму вялікаму таленту пакінулі нам у спадчыне шмат высока мастацкіх твораў, але няшмат зь іх магло ўзьняцца на сучасную ім заходняэўрапэйскую ўзроўню. Багдановіч колькасна пакінуў па сабе ня шмат твораў з прычыны сваей перадчаснай сьмерці, але спасярод гэтых твораў ёсьць і такія мастацкія пэрлы, якіх не пасароміўся-б найвялікшы эўрапэйскі паэта.



Глыбока разумеючы істоту мастацкае творчасьці й маючы высока разьвіты эстэтычны змысл, Багдановіч ў сэньсе мастацкага й тэхнічнага апрацаваньня літаратурнага твору ставіў вельмі суровыя вымаганьні. Ягоны пагляд на літаратурнае мастацтва быў рацыяналістычны. Ён уважаў, што для добрага твору аднаго аўтаравага таленту недастаткова, што, апрача таленту й прыроджаных здольнасьцяў, патрэбная й дастатковая літаратурная асьвета ды старанная, цярплівая, а навет мазольная праца над творам.

Дзякуючы гэтым сваім эстэтычным прынцыпам, Багдановіч і змог узьняцца на эўрапэйскую вышыню, зьвязаць беларускую літаратуру з эўрапэйскай літаратурай ды прысвоіць ёй эўрапэйскія мастацкія ўзоры.

Ня гледзячы аднак на моцныя ўплывы літаратурнага Захаду, Багдановіч быў глыбокім беларускім нацыянальным паэтам. Гэтую рысу Багдановічавай творчасьці вельмі пуката адзначыў праф. І. Замоцін у ўступным артыкуле да акадэмічнага выданьня твораў паэты ў 1927-28 гг. Ён пісаў«

«Паміж іншым, увагу яго чытача міжвольна спыняе адна характэрная акалічнасьць: пераглядаючы том яго вершаў, толькі зрэдку можна сустрэць вершаваны радок ці невялічкую вершаваную п'еску, навеяную абставінамі і ўражаньнямі, якія тапаграфічна й псыхалягічна знаходзяцца вонках яго бацькаўшчыны і зьвязаных зь ёю пытаньняў. Чаму так? Чаму паэта, які пражыў сваё маленства і юнацтва ў Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўі, не адбіў у сваіх вершах уражаньняў Паволжа, быту расейскіх губэрнскіх гарадоў, прыуральскага стэпу, дзе ён некалькі разоў летаваў, Крыму, дзе ён жыў і лячыўся, і г. д.? Гэтага аніяк нельга вытлумачыць недахватам яго ўражлівасьці ці недахватам таго матарыялу з галіны прыроды і быту, якія ён назіраў вонках свае бацькаўшчыны. Гэта можна вытлумачыць толькі тым, што ён усё сваё нядоўгае жыцьцё, у парадку свае нутранае маральнае дысцыпліны, цалкам аддаў бацькаўшчыне, што ён сам пасьвяціў сябе ў рыцары гэтай «даме» свайго юнацкага раману, што ён, зьвязаны сваёй любасьцю да бацькаўшчыны і слугаваньнем ёй, мысьліў сябе нявольным аддаваць сваё натхненьне чаму-небудзь і каму-небудзь іншаму, апрача тэй — скажам словамі яго паэтычнай сымболікі — «Мадонны», якая была для яго lumen coeli, sancta rosa і якой аднэй ён мог, як паэта, маліцца і слугаваць».

Багдановіч правільна разумеў, якімі шляхамі павінна разьвівацца маладая беларуская літаратура, каб, чэрпаючы із сьветавай літаратурнай спадчыны, стацца аднак літаратурай нацыянальнай. Гэты нацыянальны характар літаратуры ён разумеў не на падставе мовы, у якой напісаныя ейныя творы, ані парушанае ў ёй нацыянальнае праблематыкі, але ў першую чаргу на падставе ейнага беларускага «складу», г. зн. стылёвых нацыянальных асаблівасьцяў, разумеючы іх у найшырэйшым значэньні гэтага слова. За найбагацейшае жарало нацыянальнага стылю ўважаў Багдановіч беларускую народную творчасьць, апрацаваў тэарэтычныя асновы ейнага выкарыстоўваньня ў мастацкай літаратуры ды напісаў цэлы рад твораў, аснованых на беларускай народнай творчасьці. Такім чынам у галіне выкарыстоўваньня народнае творчасьці ў мастацкай літаратуры, што пазьней сталася ў нас поўнасьцю апрабаваным і шырака практыкаваным зьявішчам, Багдановіч быў запраўдным наватарам.

У цэлым радзе сваіх твораў, тэматычна, а часамі й стылістычна аснованых на гістарычных матывах, Багдановіч якбы ўваскрасіў слаўныя мамэнты зь мінуўшчыні беларускага народу. Гэты ягоны зварот да гістарычнай мінуўшчыні таксама адбываўся ў пляне наданьня мастацкай літаратуры беларускага нацыянальнага характару. Дык і ў гэтай галіне быў Багдановіч адным із наватараў.

Вялікая роля Багдановіча ў беларускай літаратуры, як бачым, вымяраецца не адным, але цэлым радам літаратурных дасягненьняў, якія ён пакінуў у спадчыне маладой беларускай літаратуры. Ён для яе цэнны й заслужаны і як глыбока нацыянальны паэта, і як незраўнаны ў сваім часе мастак і эстэтык паэтычнага слова, і як наватар у цэлым радзе літаратурных плыняў і, напасьледак, як аўтар, які зьвязаў беларускую літаратуру зь літаратурным мастацтвам заходніх народаў і ўзьвеў яе на эўрапейскую вышыню, а адначасна застаўся верным сынам сваёй эпохі, як нашанівец і адраджэнец. Усё гэта і дае нам поўныя падставы паставіць Багдановіча на адным месцы з Купалам і Коласам.

**Ст. Станкевіч**

# Аб тэматыцы „Бацькаўшчыны“

Апошнім часам рэдакцыя «Бацькаўшчыны» пачала атрымліваць ад часу да часу лісты, аўтары якіх наракаюць, што газэта дае вялікую перавагу артыкулам і наагул матарыялам на савецкія тэмы за кошт больш актуальных і, на іхную думку, больш тэмаў зь беларускага эміграцыйнага жыцьця. Хоць такія лісты й ня частыя, тым ня меней вельмі сымптаматычныя, што прайсьці міма іх проста немагчыма. Атрымліваецца ўражаньне, што гэтыя людзі ўважаюць беларускую савецкую ці лепш падсавецкую праблематыку за далёкую і ўжо няцікавую для нашага эміграцыйнага чытача. Адзін-жа з аўтараў такіх лістаў навет зь нехаванай зласьлівасьцяй проста піша гэтак: «Чаму гэта 4/5 (!?) абыйма заўсёды прысьвячаецца падзеям у БССР і розным справам, зьвязаным з бальшавізмам?.. паводля іх (г. зн. рэдактароў «Бацькаўшчыны») яна («Бацькаўшчына») ня ёсьць той трыбунай, як уважае наша эміграцыя, адкуль не адно выцятваюць на сьвятло дзеннае бальшавіцкія прадзелкі ў паняволенай бацькаўшчыне, але й даюць новастворанае, жывое-эміграцыйнае. Бо газета-ж прысьвечаная для эміграцыі. Навошта-ж тады адно бубнець пра БССР, калгасы. Далібог, для каго-ж вы гэта пішаце, Ці можа наша эміграцыя ня ведае гэтага або можа вы газэту дамоў пасылаеце? Вы перш друкавалі Кулакоўскага, цяпер-жа Макаёнка. Нашы людзі на эміграцыі да гэтага часу й ня ведалі, што беларускія падсавецкія пісьменьнікі маюць адхіленьні ад партыйнай лініі. Вось-жа цяпер і накінуцца на гэтыя, выдрукаваныя Вамі творы. Гэтаж не абы што — Амэрыку вунь адкрылі».

Відаць ужо з гэтага, што пытаньне тэматыкі й праблематыкі нашае газэты патрабуе шырэйшага разьясьненьня.

Вось-жа калі ходзіць пра тэматыку «Бацькаўшчыны» й праблемы, закрананыя ў ейных артыкулах, дык трэба адзначыць два зусім розныя пэрыяды ейнага функцыянаваньня. У першыя гады йснавання нашае газэты выразна пераважалі ў ёй праблемы, зьвязаныя з жыцьцём і дзейнасьцяй нашае эміграцыі. Затое тэмы зь беларускага падсавецкага жыцьця або зусім адсутнічалі, або калі зрэдка й паяўляліся, дык пераважна з даваеннага яшчэ пэрыяду. Дзеля гэтага былі дзьве важныя прычыны.

Першая прычына была тая, што гэта быў яшчэ пэрыяд фармаваньня беларускага эміграцыйнага жыцьця, пачаткі ўзьніканьня ягоных арганізацыйных формаў, гуртаваньня й кансалідацыя нацыянальных сілаў ды выпрацоўваньне ідэялягічных і палітычных лініяў эміграцыйнай дзейнасьці. Гэта былі гады ад заканчэньня апошняй вайны й да заканчэньня масавага эміграваньня з ДП-лягераў Нямеччыны ў краіны сталага пасяленьня й наладжаньня там ды замацаваньня арганізацыйных формаў дзейнасьці.

Зусім зразумела, што ў той час узьнікала мноства важных нашых чыста нутраных — грамадзкіх, нацыянальных, палітычных, культурных ды нат зусім жыцьцёвых праблемаў. Усе яны на бачынах нашае прэсы, спачатку ратататарнай, пазьней друкаванай, у тым ліку й на бачынах «Бацькаўшчыны» патрабавалі як найшырэйшага асьвятленьня — з аднаго боку, ды ўстанаўленьня найбольш нам адпаведных кірункаў нашае дзейнасьці — з другога. Дык ня было ані часу, ані месца ў нашых сьціплых ворганах, ані нат вялікай патрэбы займацца іншымі, часта ня менш важнымі пытаньнямі, як пытаньні міжнароднае палітыкі, тэмы з нашай нацыянальнай мінуўшчыні, а таксама й праблемы зь беларускага падсавецкага жыцьця.

Але была й іншая прычына, дзеля якой праблемы зь беларускага падсавецкага жыцьця амаль зусім тады не закраналіся на бачынах нашае эміграцыйнае прэсы. Прычына была тая, што тады падвойная зялезная заслона, або зялезная й сталёвая, як некаторыя ў нас выражаюцца, была натолькі шчыльная, што да нас не пранікалі абсалютна ніякія весткі з адгароджанай гэтымі заслонамі Бацькаўшчыны. Не даходзілі навет весткі ў савецкім хвальшывым асьветленьні. Мы тады не мелі ніякага доступу навет да савецкай прэсы й наагул да савецкай літаратуры, а таму зусім ня ведалі, або ведалі няпоўна й вельмі недакладна аб тых падзеях і працэсах, якія ў той час у Беларусі адбываліся. А адбывалася там вельмі шмат чаго цікавага, важнага й вартага найбольш шырокага асьвятленьня на бачынах нашае прэсы.

Пазьней палажэньне грунтоўна зьмянілася ў нашым эміграцыйным жыцьці й узьнікалі новыя ўмовы грамадзкае працы.

Усе тыя пытаньні, якія раней былі няяснымі, плыўкімі й неразьвязальнымі, знайшлі тое ці іншае, памыснае або дрэннае разьвязаньне, а жыцьцёвыя ўмовы бальшыні нашых эмігрантаў устабілізаваліся, магчымасьці іхнае грамадзкае й палітычнае дзейнасьці выкляраваліся. Усё гэта сталася ў выніку масавага выэміграваньня нашых суродзічаў зь Нямеччыны. У многіх краінах вольнага сьвету паўсталі большыя або меншыя, але ўжо сталыя беларускія асяродзьдзі, узьніклі неабходныя арганізацыі, адкрыліся рэальныя магчымасьці нацыянальнае дзейнасьці ў розных галінах. У сувязі з гэтым шмат неразьвязаных праблемаў, якія раней хвалявалі нашую эміграцыю й патрабавалі свайго асьвятленьня ў прэсе, знайшлі сваё разьвязаньне, некаторыя страцілі на сваёй вайстрыні, а іншыя проста перасталі існаваць. Разам з гэтым адпала й патрэба ў нашай прэсе абмяжоўвацца амаль вылучна да нутраных эміграцыйных праблемаў.

Нельга, аднак, сказаць, што цяпер усё зьмянілася на лепшае у параўнаньні з ранейшым станам нашае дзейнасьці. Шмат якія нашыя людзі, што раней былі актыўнымі ў грамадзкім або палітычным жыцьці, цяпер сталіся бязьдзейнымі, некаторыя зусім ізаляваліся ад беларускага грамадзкага жыцьця ці, як аб іх паўстала ўжо прыказка, «загразьлі, як тараканы, у саладусе». Таксама й некаторыя арганізацыі закасьцянелі ў сваіх формах і абмяжоўваюць сваю дзейнасьць

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Савецкая дэмаграфічная палітыка ў БССР

За час існаваньня савецкага рэжыму адбылося тры перапісы ўсяго жыхарства СССР. Першы перапіс быў праведзены 17 сьнежня 1926 году, другі — 17 студзеня 1939 году і, праз 20 гадоў, трэйці перапіс адбыўся 15 студзеня сёлета.

10 травеня ў савецкай прэсе было зьмешчана афіцыяльнае паведамленьне Цэнтральнага статыстычнага кіраўніцтва пры Савеце міністраў СССР «Аб выніках усесаюзнага перапісу жыхарства 1959 году».

Паводля гэтага паведамленьня ўва ўсім Савецкім Саюзе на 15 студзеня сёлета налічвалася 208 мільёнаў 826 тысяч чалавек. Рост жыхарства Савецкага Саюзу характарызуецца наступнымі дадзенымі:

| | |
|---|---|
| 1913 г. (сучасныя межы СССР) | — 159,2 млн. |
| 1926 г. (17 сьнежня) | — 147,0 млн. |
| 1939 г. (улучна з Зах. Беларусяй і Украінай, Малдавіяй і Прыбалт. краінамі) | — 190,7 млн. |
| 1959 г. (15 студзеня) | — 208,8 млн. |

Такім чынам за 20 гадоў пасьля апошняга перапісу колькасьць жыхарства павялічылася на 18,1 мільёна чалавек, або на 9,5 працэнтаў. Надзвычайна колькасьць жыхарства павялічылася ў раёнах Уралу, Заходняга і Ўсходняга Сібіру й Далёкага Ўсходу. За гэты пэрыяд яно тут збольшылася на 70 працэнтаў. У Сярэдняй Азіі й Казахстане збольшылася колькасьць жыхарства на 38 працэнтаў. Гэтае збольшаньне тлумачыцца разьвіцьцём прамысловасьці й рознымі мабілізацыямі пераважна моладзі «на вялікія будоўлі камунізму», перасяленьнем на цаліну, а таксама пасяленьнем тут мільёнаў былых зьняволеных з канцэнтрацыйных лягераў.

У паведамленьні падаюцца таксама дадзеныя аб лічбовых зьменах жыхарства, што адбыліся на працягу апошніх 20 гадоў. Вось яны:

| | Колькасьць жыхарства у тысячах | |
|---|---|---|
| | 1939 г. | 15. 1. 1959 г. |
| СССР | 190,678 | 208,826 |
| РСФСР | 108.379 | 117.494 |
| Украінская ССР | 40.469 | 41.893 |
| **Беларуская ССР** | **8.910** | **8.060** |
| Узбэцкая ССР | 6.336 | 8.113 |
| Казахская ССР | 6.094 | 9.309 |
| Грузінская ССР | 3.540 | 4.049 |
| Азэрбайджан. ССР | 3.205 | 3.700 |
| Літоўская ССР | 2.880 | 2.713 |
| Малдаўская ССР | 2.452 | 2.880 |
| Латыская ССР | 1.885 | 2.094 |
| Кіргіская ССР | 1.458 | 2.063 |
| Таджыцкая ССР | 1.483 | 1.982 |
| Армянская ССР | 1.282 | 1.768 |
| Туркмэнская ССР | 1.252 | 1.520 |
| Эстонская ССР | 1.052 | 1.196 |

Як бачым, для нашае Бацькаўшчыны — вынікі вельмі сумныя. За 20 гадоў ня толькі няма ніякага збольшаньня колькасьці жыхарства, але наадварот, яно зьменшылася на 850 тысяч. А тымчасам, калі ўзяць агульны прырост жыхарства ўва ўсім СССР г. зн. 9,5 працэнта, то параўнаўшы зь перапісам 1939 году ў БССР павінна было-б быць цяпер 9 мільёнаў 754 тысячы чалавек. Мала гэтага, у нас ёсьць усе падставы цьвердзіць, што й пададзеная ў паведамленьні колькасьць жыхарства Беларусі ў 1939 г. — 8 мільёнаў 910 тысяч — не адказвае запраўднасьці. Пакажам гэта пры дапамозе іншых савецкіх крыніцаў. І так у статыстычным зборніку «Народная гаспадарка СССР за 1956 г.» гаворыцца, што ў БССР у 1940 г. было 9,2 мільёна жыхарства. У «Большой Советской Энциклопедии», т. 4, бач. 476 чытаем, што ў БССР «паводля дадзеных 1939 г. жыхарства налічваецца 10,5 мільёнаў чалавек». Дадзеныя БСЭ адказваюць запраўднасьці ў большай ступені. Яны былі апублікаваныя ў 1950 годзе пасьля ўважлівага распрацаваньня матар'ялаў перапісу 1939 году. Адсюль мы бачым, што бальшавікі цяпер тэндэнцыйна й штучна зьмяншаюць колькасьць жыхарства БССР у 1939 годзе, каб розьніца між колькасьцяй 1939 году й 1959 году была як найменшай.

Бязумоўна, трэба браць на ўвагу зьмяншэньне колькасьці жыхарства з прычыны вайны. Аднак, нельга забывацца, што вайна закончылася амаль 15 год таму й што праз гэтыя-ж гады мусіў быць пэўны натуральны прырост. Дзе ён? У далёкім Сібіры, у Казахстане, на Поўначы!

Падобная доля спаткала й нашых суседзяў Летувісаў. Пасьля далучэньня Летувы да СССР колькасьць жыхарства ў гэтай краіне таксама зьменшылася.

Камуністычная прапаганда заўсёды падчырківае, як выдатнае зьявішча, што ў выпадку правядзеньня ў краіне індустрыялізацыі, сельске жыхарства зьмяншаецца й павялічваецца гарадзкое. Прыкладам, у РСФСР у 1939 годзе гарадзкога жыхарства было 33 працэнты, а паводля сёлетняга перапісу — 52 працэнты. У савецкай прэсе, а таксама і ў выступах камуністычных правадыроў вельмі й вельмі часта падаецца, што камуністычная партыя ператварыла адсталую бедна-сялянскую Беларусь у індустрыяльна-калгасную заможную краіну. А глянем тымчасам на лічбы перапісу. У БССР сельскае жыхарства складае 69 працэнтаў, а гарадзкое — 31 працэнт. З усіх 15 саюзных рэспублік толькі Малдаўская ССР мае сельскага жыхарства 78 працэнтаў, іншыя-ж 13 рэспублік — значна менш.

Паважныя зьмены адбыліся ў колькасьці жыхарства большых беларускіх гарадоў. Вось дадзеныя:

| Горад | Жых. у тыс. | | 1959 у % да 1939 |
|---|---|---|---|
| | 1939 | 1959 | |
| Менск | 237 | 509 | 214 |
| Віцебск | 167 | 148 | 88 |
| Гомель | 139 | 166 | 120 |
| Магілёў | 99 | 121 | 122 |
| Бабруйск | 84 | 97 | 115 |
| Горадня | 49 | 72 | 146 |
| Берасьце | 41 | 73 | 176 |
| Ворша | 54 | 64 | 119 |
| Барысаў | 49 | 59 | 121 |
| Баранавічы | 27 | 58 | 211 |
| Маладэчна | 7 | 26 | 352 |

З гэтых дадзеных відаць, што сталіца Беларусі Менск стаўся паўмільённым горадам, што тлумачыцца разьмяшчэньнем тут такіх вялікіх індустрыяльных прадпрыемстваў, як аўтамабільны, трактарны й іншыя буйныя заводы. Закінутым застаўся стары губэрнскі Віцебск; гэты былы буйны горад ня толькі ня вырас, але яшчэ й зьменшыўся на 12 працэнтаў. Маладэчна дало надзвычайнае павялічэне ў працэнтах, але, хоць і акруговы цэнтр, надалей ня мае пэрспэктываў разьвіцьця.

Пакуль што ў паведамленьні ня зьмешчаныя дадзеныя аб колькасьці мужчынаў і жанчын па саюзных рэспубліках. Ува ўсім Савецкім Саюзе паводля перапісу мужчынаў налічваецца 94 мільёны, а жанчын — 114,3 мільёнаў, гэта значыць — на 20,8 мільёнаў больш, чымся мужчын; у працэнтах: мужчын — 45%, жанчын — 55%.

Гэтта мы падалі колькі важнейшых дадзеных інфармацыйнага характару. Да гэтае тэмы вернемся яшчэ раз у вадным з наступных нумароў «Бацькаўшчыны».

**В. Б.**

# Францускі міністар не памыляўся

Яшчэ за некалькі дзён да пачатку цяперашняй жэнэўскай канфэрэнцыі, францускі міністар замежных справаў Кув дэ Мюрвіль прадбачваў, як яна будзе адбывацца. Вось ён гаварыў напоў жартам напоў паважна: «Першы тыдзень мы будзем спрачацца з Грамыкам адносна ўдзелу Польшчы й Чэхаславаччыны, другі тыдзень — за ўдзел Немцаў, трэці тыдзень пройдзе ў спрэчках над парадкам дня нашай канфэрэнцыі, і аж на чацьвертым можа выпрацуем парадак дня канфэрэнцыі на найвышэйшым узроўні».

Як бачым, спрытны Француз ня меў ілюзіяў і надзеяў што да выніку цяперашняй канфэрэнцыі. Судзячы з першых чатырох дзён жэнэўскай нарады, можна зрабіць выснаў, што Кув дэ Мюрвіль няшмат памыліўся. Толькі крыху зьмянілася чарговасьць спрэчак.

Яшчэ перад адкрыцьцём канфэрэнцыі Грамыка абліў сьцюдзёнай вадой сваіх партнэраў, катэгарычна дамагаючыся ўдзелу абодвух нямецкіх міністраў замежных справаў. Гэта была першая прыкрасьць і трэба было доўгай дыпляматычнай мітусьні, каб угаварыць упорыстага Грамыку, што той згадзіўся на адкрыцьцё нарадаў. Найбольш мітусіліся Ангельцы — здаецца адзіныя энтузьястыя канфэрэнцыяў. Канфэрэнцыю адчынілі, але й пытаньне Грамыка застаherwiў адчыненым, так што ў кажную хвіліну ён можа да яго вярнуцца.

Аднак Грамыка ня быў-бы вучнем Молатава, каб не знайшоў іншых матываў да стварання абструкцыі. Вось-жа яму не падабаўся квадратны стол нарадаў, а захацеў сядзець пры круглым. Ізноў пачалася мітусьня, каб прыцягнуць Грамыку да квадратнага стала. Далей ён катэгарычна зажадаў удзелу ў нарадах Польшчы й Чэхаславаччыны.

Такім чынам дні праходзяць на дыскусіях над другараднымі, працэдуральнымі пытаньнямі й ніяк ня можна прыступіць да разгляду істотных праблемаў.

Як бачым, Кув дэ Мюрвіль не памыляўся.

Палажэньне ўскладняецца й тым, што заходнія дыпляматы кажны раз мусяць узгадняць, што і як адказаць агрэсыўнаму Грамыку, тады, калі той усё узгодніў з Хрушчовам і цяпер сыстэматычна выцягвае з свайго дыпляматычнага багажу штораз новыя матывы абструкцыі. Як дагэтуль, сярод заходніх саюзьнікаў пануе згода і яны — хоць з затратай часу — дамаўляліся. Усё-ж вычуваецца, што ангельскія дыпляматы блага чуюцца ў гэтай цьвёрдай пазыцыі: яны-б гатовы былі пакрысе ўступаць Грамыку, каб толькі не дайшло да зрыву канфэрэнцыі. Так доўга яны яе чакалі, як манны зь неба...

Рэч зразумелая, сяньня цяжка прадбачыць, чым кончыцца цяпэрашняя нарада. Прыгаданы Кув дэ Мюрвіль перасьцерагаў, што трэба лічыцца навет з магчымасьцяй зрыву. Усё-ж такі заходнія дыпляматы будуць рабіць усе высілкі, каб да гэтага не дайшло. Як заўсёды — нажаль так і цяпер — усё будзе залежыць ад Масквы, гэта значыць, ці бальшавіцкія кіраўнікі маюць добрую волю дамаўляцца й ліквідаваць міжнароднае напружаньне. Да гэтага часу Грамыка ня выявіў такой добрай волі.

Хрушчоў вельмі неахвотна згадзіўся на цяперашнюю канфэрэнцыю міністраў замежных справаў, ён і далей дамагаецца сустрэчы на «найвышэйшым узроўні». Таму трэба спадзявацца, што Грамыка мэтадамі абструкцыі будзе намагацца вышантажаваць згоду заходніх дзяржаваў на гэтую сустрэчу. А падчас канфэрэнцыі кіраўнікоў дзяржаваў Хрушчоў у сваю чаргу будзе намагацца вышантажаваць новыя ўступствы й канцэсіі ад Захаду.

Нядаўна Хрушчоў наладзіў «пабалачкі» з заходнянямецкімі журналістымі. Ён зь мінай добрага таты запэўніў іх, што ўсім сэрцам кахае нямецкі народ і «мір ува ўсім сьвеце», але тут-жа папытаўся: «А як вы думаеце, колькі трэба вадародных бомбаў каб зьнішчыць усю Нямецкую Фэдэральную Рэспубліку?» Калі-ж спалоханыя журналістыя адказалі, што можа 8, можа 10, Мікіта іх пацешыў: «Вось бачыце, а ў мяне ёсьць іх шмат больш...»

Прыемны акампаньямэнт да міжнародных перамоваў! Бальшавікі разьлічваюць, што дэлікатныя нэрвы заходніх дыпляматаў ня вытрымаюць і яны змякнуць.

Будзем спадзявацца, што так не здарыцца. Нажаль, больш нічога ня можам зрабіць...

**пс**

# Тры Фазы?

Агенства «Юнайтэд прэс Інтэрнэшнл», спасылаючыся на афіцыйныя колы, паведамляе аб падрабязнасьцях пляну заходніх дзяржаваў, які прадбачвае разьвязаньне галоўных эўрапейскіх праблемаў у трох фазах. У першай фазе павінна быць праведзенае задзіночаньне ўсходняга й заходняга Бэрліну, як пробны крок да задзіночаньня ўсёй Нямеччыны. Як ува ўсходнім, так і ў заходнім Бэрліне павінны быць праведзеныя свабодныя выбары, у выніку якіх павінна быць створанае агульна-бэрлінскае самакіраўніцтва. Адначасна павінна быць створаная камісія для расшырэньня культурных і гандлёвых сувязяў паміж абедзьвюма часткамі Нямеччыны, а таксама для выпрацаваньня пляну агульнанямецкіх выбараў з мэтай задзіночаньня ўсяе Нямеччыны. У камісію павінны ўвайсьці прадстаўнікі Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі і гэтак званай Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі ў адпаведнасьці з колькасьцяй іхнага насельніцтва: 25 чалавек з Заходняй і 10 з Усходняй Нямеччыны.

У другую фазу заходняга пляну, якая павінна пачацца праз два з палавінай гады, уваходзіць канкрэтная падрыхтоўка задзіночаньня Нямеччыны, а таксама паступовае стварэньне зоны ўзаемнай інспэкцыі збройных сілаў у Цэнтральнай Эўропе. У выніку ў гэтай зоне павінны быць на аснове ўзаемнага пагадненьня зьменшаныя збройныя сілы з абодвух бакоў.

У трэйцюю фазу заходняга пляну ўваходзіць падпісаньне мірнай умовы з поўнасьцяй задзіночанай Нямеччынай, якая павінна кіравацца адзіным урадам і ўвайсьці ў Арганізацыю Задзіночаных Нацыяў.

# Аб тэматыцы „Бацькаўшчыны“

(Заканчэньне з 1-ай бач.)

толькі да ладжаньня традыцыйных акадэміяў на розныя нацыянальныя гадавіны. Гэтая акалічнасьць таксама не дае дастатковага матарыялу для разьвіваньня ў «Бацькаўшчыне» беларускай нацыянальнай эміграцыйнай праблематыкі.

Але, ня гледзячы на ўсё гэта, нам здаецца, што мы ўсё-ж дастаткова адводзім месца для асьвятляньня беларускага эміграцыйнага жыцьця й дзейнасьці, а таксама закранаем і нат заініцыёўваем розныя нацыянальныя праблемы ў меру й прапарцыянальна да тых умоваў і патрэбаў, якія толькі што былі паказаныя. Што-ж датычыцца хранікарскага інфармаваньня аб нацыянальнай дзейнасьці паасобных эміграцыйных асяродзьдзяў, дык рэдакцыя найахватней за ўсё зьмяшчае такія матарыялы. А калі такая інфармацыя часамі адсутнічае або зьяўляецца няправільнай ці недакладнай, дык вінаватыя ў гэтым вылучна дадзеныя асяродзьдзі, якія такіх матарыялаў ня прысылаюць зусім або прысылаюць іх тады, калі аб апісванай у іх падзеі навет самі ейныя ўдзельнікі ўжо забыліся.

І напасьледак пытаньне патрэбы ці непатрэбы шырокага асьвятляньня падзеяў зь беларускага падсавецкага жыцьця. Вось-жа, на нашую думку, усе тыя, якія супраць беларускай падсавецкай праблематыкі на бачынах «Бацькаўшчыны» або хоць-бы патрабуюць яе абмежаваньня, моцна й моцна мыляюцца. Цэнтрам нашае ўвагі якраз павінна быць паняволеная Беларусь ды даслоўна ўсё чыста, што ў ёй цяпер дзеіцца. А дзеяцца там рэчы жахлівыя. Ня гледзячы на частыя зьмены палітычных курсаў у Савецкім Саюзе, на адным адрэзку жыцьця палітычны курс у прынцыпе заўсёды нязьменны. Гэта адрэзак нацыянальнае палітыкі. У Беларусі ўвесь час праводзіцца няспынная акцыя вынішчаньня беларускага нацыянальнага патэнцыялу й шалее безаглядная русыфікацыя ўва ўсіх галінах народнага жыцьця і ў розных ейных формах. Ня спыняецца навет і цяпер акцыя гэнасыду ў дачыненьні да беларускага народу, прыкладам, у форме масавага вывожаньня карэннага беларускага насельніцтва на казахстанскія й сібірскія цальнягі ды насыланьня ў Беларусь расейскага насельніцтва або ў форме сыстэматычнага выціскаваньня беларускае мовы й замены яе мовай расейскай. Таксама бязьлітасна й безаглядна праводзіцца фізычнае вынішчэньне народу ў галіне эканамічнай і сацыяльнай.

З другога-ж боку, у Беларусі ня спыняецца й адваротны працэс. Гэта працэс масавага й глыбокага супраціву русыфікацыі й саветызацыі. Нас дакараюць за передрукаваньне ў «Бацькаўшчыне» «Дабрасельцаў» Кулакоўскага і «Каб людзі ня журыліся» Макаёнка. А ці-ж гэта не найяскраўшыя праявы супраціву саветызацыі, з чаго мы павінны быць толькі гордымі ды аб чым павінна быць найшырэй інфармаванае нашае эміграцыйнае грамадзтва.

Магчыма некаторыя нашыя суродзічы ўжо натолькі псыхалягічна адарваліся ад Бацькаўшчыны, што іх зусім ня цікавіць тое, што там сяньня дзеіцца. Але газэта «Бацькаўшчына» стаіць і будзе цьвёрда стаяць на іншым становішчы. Не адмаўляючы важнасьці асьвятляньня эміграцыйных нацыянальных праблемаў, рэдакцыя газэты ўважае, што галоўная ейная ўвага павінна быць зьвернутая на паняволеную, але непакораную Бацькаўшчыну. Калі-б мы ад яе адарваліся, страцілі-б усякі грунт пад нагамі й для нашае нацыянальнае дзейнасьці на чужыне.

# 3-ці зьезд кампазытараў БССР

18—22 красавіка сёлета ў Менску адбыўся III зьезд кампазытараў Беларусі, на якім прысутнічала таксама шмат пісьменьнікаў, артыстых, студэнтаў ды гасьцей зь іншых саюзных рэспублік.

Старшыня праўленьня Саюзу кампазытараў БССР Я. Цікоцкі даў справаздачу з творчай дзейнасьці беларускіх кампазытараў за пэрыяд між II зьездам, што адбыўся тры гады таму, і цяперашнім. І хоць із справаздачнага дакладу выглядала-б, што за гэты час беларуская музыка ўзбагацілася шматлікімі каштоўнымі творамі, аднак, як выявілася пазьней у дыскусіях — усё гэта толькі прапагандовыя лікавыя паказьнікі, якія яшчэ нічога не гавораць аб дасягненьнях беларускае савецкае музыкі.

З крытыкай музычнае творчасьці й наагул палажэньня ў Саюзе кампазытараў БССР выступілі кампазытары Р. Пукст, М. Аладаў, музыказнаўцы С. Нісьневіч, Л. Мухарынская, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнай харавой капэлі БССР Р. Шырма, дырэктар Беларускай кансэрваторыі А. Багатыроў, паэта А. Бачыла, народная артыстка Л. Александроўская, самадзейны кампазытар П. Касач і інш.

Трэба адцеміць, што гэтая крытыка розных недахопаў ішла ў двух кірунках: з аднаго боку — крытыка фаховая, аб'ектыўная паказвала перадусім на нізкія якасьці паасобных твораў, на нізкую ступень майстэрства некаторых аўтараў; з другога-ж боку — крытыка ў духу партыйных вымогаў зьвяртала ўвагу на адсутнасьць добрых **масавых** песень, **урачыстых** увэртур, твораў на **сучасныя** тэмы, прысьвечаных г. зв. будаўніком камунізму.

Войстра крытыкавалася праўленьне Саюзу кампазытараў БССР, «якое непатрабавальна адносілася да праслухоўваньня новых музычных твораў. У выніку некаторыя зь іх у недапрацаваным выглядзе выходзяць у сьвет». Тут варта адзначыць, што ў тэрміналёгіі савецкай крытыкі выражэньне «недапрацаваны выгляд» адносіцца ня толькі да недахопаў твору з гледзішча тэхнічнага, прафэсіянальнага, але і ў такой-жа ступені, калі яшчэ ня большай — з гледзішча **ідэйнага**, г. зн. з гледзішча партыйнай лініі.

Адным з закідаў у бок Саюзу кампазытараў была «адсутнасьць сталага творчага кіраўніцтва маладымі кампазытарамі». Гэтае творчае кіраўніцтва трэба разумець ня йнакш, як цесную й сталую «апеку» старэйшых партыйных кампазытараў над кампазытарамі пачынаючымі, каб хацяж не дапусьціць да скрыўленьня партыйнае лініі ў савецкай беларускай музыцы гэтымі апошнімі.

Старшынёй праўленьня Саюзу кампазытараў БССР быў «выбраны» йзноў Я. Цікоцкі.

**А. Г.**

# Грамадзтва ня цікавіцца

Заходняя прэса паведамляе з Жэнэвы бытавыя падробнасьці аб нарадзе міністраў замежных справаў чатырох дзяржаваў, намагаючыся крыху ажывіць даволі сумную інфармацыю аб ёй.

Гэтак адзначаецца, што жыхарства Жэнэвы не ўдзяляе нарадзе, якая адбываецца ў палацы Нацыяў, былым Палацы Лігі Нацыяў, амаль ніякай увагі. Усе паліцыйныя мерапрыемствы для папярэджаньня празьмернага скапленьня публікі навокал Палацу, выявіліся зусім непатрэбнымі, а бар'еры, створаныя навокал Палацу — лішнімі.

У ваўторак, у часе прыезду ў Палац дэлегацыяў удзельнікаў нарады, на вуліцы перад палацам стаялі з аднаго боку 17, а з другога — 12 чалавек, ды й тыя, галоўным чынам, замежныя турыстыя. Значна больш клопатаў жэнэўскай паліцыі стварае прыезд сюды на гастролі сусьветна ведамай нэгрыцянскай джаз-аркестры, Люі Армстронга, з Амэрыкі. На ягоныя канцэрты зыходзіцца столькі моладзі, што паліцыя ледзь дае рады ўтрымаць парадак.

Паведамляецца таксама, што ў параўнаньні з Жэнэўскай нарадай кіраўнікоў урадаў у 1955 годзе, лік журналістых, якія прыбылі ў Жэнэву, крыху меншы. Супраць тысячы 300 журналістых у ліпені 1955-га году, цяпер іх тут — 1150 чалавек.

Швайцарскае міністэрства сувязі дало ў распараджаньне дэлегацыяў і журналістых 90 тэлетыпаў.

# Сьмяротны прысуд над украінскімі антыкамуністымі

Як падало нямецкае радыё й прэса, Найвышэйшы суд Украінскай ССР нядаўна засудзіў на сьмерць пяцёх вядучых украінскіх антыкамуністых — сяброў «Арганізацыі Украінскіх Нацыяналістых». Адначасна паведамляецца, што ня гледзячы на нязвычайна цяжкія ўмовы дзейнасьці, гэтая арганізацыя вядзе і цяпер зацятае падпольнае змаганьне супраць камуністычнага рэжыму на Ўкраіне.

# Маскоўская інструкцыя для сваіх агентаў

**Ад Рэдакцыі.** Украінская газэта «Народна Воля» (ЗША) з 23 красавіка падае вельмі цікавыя весткі пра інфільтрацыю на Захадзе маскоўскае агентуры. Гэтыя весткі газэта ўзяла з францускага штодзённіка «Ля Круа». Лічым карысным пазнаёміць зь імі нашых чытачоў.

*

Маскоўская бальшавіцкая ўлада працуе для падрыву сілы чужых нацыяў рознымі спосабамі.

Першы спосаб — гэта адкрытая камуністычная партыя. Ейнае заданьне — выступаць у ролі «абаронцы пралетарыяту». Гэты падыход, аднак, на практыцы апошніх пасьляваенных гадоў не апраўдаў сябе. Таму якраз Масква загадала камуністым у вольным сьвеце наагул, а ў Амэрыцы асабліва, зьмяніць дасюлешнюю тактыку ды далей выступаць таксама яшчэ і ў ролі «патрыётаў свае краіны». Гэты падыход мае зьяднаць для камуністых прыхільнасьць сярод незарыентаваных пацыфістых. Гэтая новая тактыка называецца «новым аспэктам». Камуністыя згодна з гэтай новай тактыкай пішуць і гавораць так, як бы яны былі ляяльнымі грамадзянамі свайго краю ды навет выступаюць быццам у вабароне яго сувэрэннасьці.

Другі мэтад субвэрсіі — гэта прасочваньне камуністычнае агентуры ў чужыя палітычныя, грамадзкія й рэлігійныя арганізацыі, каб там весьці нутраную працу ў кірунку раскладу ў гэтых арганізацыях.

Якраз для працы такое нутраное агентуры Масква выдала адумысловую інструкцыю сваім галоўным агентам. Прыпадкова гэтая інструкцыя трапіла ў рукі францускіх палітычных колаў, якія апублікавалі яе ў штодзёньніку «Ля Круа». Асноўныя пункты гэтае інструкцыі даслоўна такія:

### I. УВЯДЗЕНЬНЕ РАСКЛАДУ Ў АРГАНІЗАЦЫЮ

Уступаючы ў арганізацыю трэба быць якнайбольш асьцярожным і стрыманым. Гэтае працы нельга весьці сьпяшаючыся. Паколькі было ведамым, што вы належалі да варожай арганізацыі, трэба паступова ад яе аддаляцца, удаючы незадаволенага або расчараванага. Лепш, калі вас запросяць у вызначаную арганізацыю.

Калі, аднак, уступаеце з собскае ініцыятывы, рабеце гэта паступова, у ніякім выпадку не паказвайце з самага пачатку захапленьня дадзенай арганізацыяй. Удавайце, што вы паступова захопліваецеся новай ідэяй. Пастаўце сябе ў такую пазыцыю, каб вас пераконвалі, часам упірайцеся, толькі паступова паддавайцеся намовам і аргумэнтам. Паступова далучайцеся да працы арганізацыі, пачынаючы ад найменшага заданьня. Не дамагайцеся даверу — трэба перш-на-перш здабыць сабе апінію добрага, скромнага працаўніка. Калі вам гэта ўдасца, зрабеце зь сябе неабходнага працаўніка й толькі тады прыступайце да ажыцьцяўленьня асноўнага заданьня.

### II. ДЫСКРЭДЫТАЦЫЯ КІРАЎНІКОЎ

а) Трэба дыскрэдытаваць адных перад другімі найлепшых працаўнікоў-масавікоў із складу варожых арганізацыяў. Трэба паказваць на тое, што цяпер яны добра выконваць свой абавязак, але невядома, што зробяць у вадказную хвіліну: «Напэўна пакажуцца палахліўцамі» і г. д. Дыскрэдытуючы іх у вачох радавых сяброў, дыскрэдытуйце іх адначасова ў вачох кіраўнічай улады арганізацыі.

б) Трэба дыскрэдытаваць кіраўніцтва, пачынаючы ад другарадных асобаў. Іх лягчэй здыскрэдытаваць. Пасьля здыскрэдытаваньня іх трэба ўдаваць зьдзіўленьне, чаму, маўляў, такіх людзей паклікалі на адказныя становішчы; гэта будзе ўжо падкопам пад вышэйшыя кіраўнічыя дзейнікі арганізацыі. Небясьпечна пачынаць адразу з дыскрэдытаваньня вышэйшых дзейнікаў.

в) Дыскрэдытуючы хоць каго, трэба гэта рабіць паступова, пачынаючы ад таварыскіх жартаў, пераходзячы паступова да выстаўляньня дыскрэдытаванага на пасьмешышча. Асобную мэтоду становяць плёткі пра жыцьцё, навет прыватнае, дыскрэдытаваных асобаў. Разводзячы плёткі, трэба дбаць, аб тое, каб яны былі да пэўнае ступені праўдападобныя.

г) Добра паказваць на надужываньне ўлады, зробленае паасобнымі прадстаўнікамі кіраўнічых дзейнікаў, на іх ненармальнасьць, няздольнасьць, на нетактоўнасьць у дачыненьні радавых сяброў. Гэтым шляхам трэба йсьці зьнізу ўверх.

Пасьля адпаведнага падарваньня аўтарытэту кіраўнікоў пераходзіць да чарговае акцыі.

### III. ДЫСКРЭДЫТАЦЫЯ ТЭХНІКІ ПРАЦЫ

а) Шляхам цьверджаньня, што працу вядуць паволі й няўмела;

б) што кіраўнікі высоўваюць перад арганізацыяй заданьні, якія спрыяюць іх асабістым амбіцыям, збольшваюць іх асабістае ці грамадзкае значэньне й прыносяць ім матар'яльныя карысьці;

в) паказваньнем на непатрэбнасьць і драбніцу штодзённае працы;

г) падтрымоўваючы падчас спрэчак становішча найбольш лянівых і слабых сяброў арганізацыі, пераконваючы іншых, што якраз яны павінны стаяць на чале арганізацыі ў вадказны момант.

### IV. ПСАВАНЬНЕ ЎЗАЕМАДАЧЫНЕНЬНЯЎ МІЖ СЯБРАМІ АРГАНІЗАЦЫІ

Аднэй з асноваў сілы арганізацыі зьяўляецца давер і прыязныя дачыненьні між ейнымі сябрамі ... Гэтую прыязьнь трэба зьнішчыць. На гэта ёсьць розныя спосабы: ігра на амбіцыях, цьверджаньні, што той або іншы працуе больш, а мае меншы ўплыў. Можна выклікаць спрэчку аб ступені карысьці з працы таго ці іншага сябры. Можна выклікаць спрэчку ў часе працы, паказваючы сябру, што ягоную працу выкарыстоўвае іншы. Часамі можна добра выкарыстаць асабістыя ўзаемадачыненьні між двома сябрамі для стварэньня дзьвёх варожых групаў, часам навет бязь іх ведама й супраць іх волі. Трэба пашыраць розныя чуткі аб прыватным, сямейным жыцьці паасобных сяброў, а ў першую чаргу кіраўнікоў.

Калі той таварыш, што вядзе акцыю, мае матар'яльныя сяродкі, дасягнуць мэты куды лягчэй. Можна запрасіць у рэстаран, даць дапамогу ў цяжкай хвіліне й гэтым лёгка здабыць хаўрусьніка.

Пасьля зьнішчэньня аўтарытэту кіраўніцтва, пасьля здыскрэдытаваньня й прыпыненьня тэхнічнае працы, можна перайсьці да галоўнага заданьня — да зьнішчэньня ідэі ворага.

### V. РАСПАЎСЮДЖВАНЬНЕ ЧУТАК

Мэта распаўсюджваньня чутак можа быць розная: выкліканьне панікі між працаўнікамі, або паднясеньне настрояў між прыхільнікамі, дыскрэдытацыя праціўніка, заціраньне сьлядоў, сьціраваньне ўвагі жыхарства ў вызначаным кірунку й г. д. Чутка павінна быць цікавая, або дасьціпная, або трывожная. Яна павінна быць праўдападобная; таму найлепш, калі згары ведама пра выпадак, што станецца, падрыхтаваць загадзя чутку, у якой была-б інтэрпрэтацыя таго выпадку. У чутцы павінны быць цікавыя дэталі. Трэба мець на ўвазе магчымасьць закрыцьця крыніц чуткі, а таму лепш, калі яе распаўсюдзіць зь некалькіх мясцоў адразу.

### VI. ДЫСКРЭДЫТАЦЫЯ ІДЭІ

Калі аўтарытэт ужо павалены, тэхнічная праца спынена, ці аслаблена, трэба пераходзіць да падрыхтоўкі разладу ў арганізацыі. Нападаць на ідэі, як і на кіраўнікоў, трэба паступова — трэба пачынаць ад другарадных тэзаў і пагляда ў, тварыць «правыя» й «левыя» ўхілы. Паколькі аўтарытэт кіраўнікоў будзе падважаны, арганізацыя ня зможа супраціўляцца ўхілам. Трэба разьвіць пацяг да ідэялягічных спрэчак на другарадныя тэмы, замяняючы, такім чынам, службу ідэі схалястычнымі спрэчкамі. Калі кіраўніцтва пазбаўленае аўтарытэту, асабістыя ўзаемадачыненьні між сябрамі папсаваныя, тэхнічная праца спынена, тады ідэя траціць пераконвальную сілу, стаючыся тэмай спрэчак. Тады трэба паступова адыходзіць, бо арганізацыя ўсяроўна ўжо засуджана на загубу, а здэмаскаваньне вас можа толькі стрымаць прыродную сьмерць, выклікаць рэакцыю і ўнемагчыміць вам далейшую акцыю ў засягу іншых арганізацыяў».



З радыёвай хвалі «Вызваленьне»

# Без нацыянальнага рэпэртуару

Нядаўна ў Менску адбылася рэспубліканская нарада ў культурна-прапагандовых справах. Склікалі яе ў сувязі з хрушчоўскай сямігодкай, якая, як абяцаецца ды абяцалася й пры сталінскіх пяцігодках, нібы мае ператварыць жыцьцё падсавецкіх людзей у нясьнёную казку і ў дзялянцы культуры. Менская «Зьвязда» пісала ў гэткім узьвейным стылі: «каб культура ... працоўных рэспублікі расьцівіла запраўды казачнай кветкай» — «адну з самых высокіх, самых велічных вяршыняў будуць браць работнікі савецкае культуры».

Газэта абвесьціла, што «сямігодка крочыць» пачала. Для ілюстрацыі падаецца цімала лічбаў, а сярод іх і гэткае: «беларускія тэатры забавязаліся паставіць сёлета 88 новых спэктакляў ...» Які-ж зьмест хаваецца за агульнай лічбай, якое месца ў рэпэртуары беларускіх тэатраў прыдзелена творам беларускіх аўтараў, што азначаюць «велічныя вяршыні» для тэатральнага беларускага мастацтва хоць-бы ў сэнсе гэтак званае нацыянальнае формы? Ворган ЦК КПБ сьведама мінае адказы навет на гэткія пытаньні ды уводзіць у зман чытача азначаньнем «беларускія тэатры», бо ў «88 новых спэктакляў» улучаны й паказы ўсіх расейскіх тэатраў БССР.

Крыху прыпадняла заслону газэта «Літаратура й мастацтва». З 88 п'есаў на беларускія прыпадае адно трынаццаць. У артыкуле «Кажнаму тэатру — добры рэпэртуар» адзначаўся заўсёды «адзін і той-жа недахоп» — «вельмі нязначнае месца займаюць п'есы беларускіх аўтараў». Прыкладам, як сьветчыць газэта, — «не заплянаваў ніводнай арыгінальнай пастаноўкі» ня толькі Гомельскі тэатр, але й сталічны тэатр Опэры й балету. Таксама сталічны драматычны тэатр, які носіць імя Купалы й афіцыйна названы акадэмічным, пакажа «адзін, ад сілы — два беларускія спэктаклі».

Усё гэта баязьліва называецца «слабой увагай да работы зь беларускімі драматургамі ды ўскладаецца віна на тэатры, а не на партыйную лінію, якой яны падначаленыя. Яна прывяла да таго, што ў БССР беларуская драматургія ня мае прасторы свайму разьвіцьцю. Беларускі рэпэртуар навет у сэнсе аўтарства займае ўзбочнае месца, бо тэатры ператвораныя ў дублёраў чужое сцэны, жывячыся перакладным рэпэртуарам, пераважна расейскіх аўтараў.

Такое становішча мае цяглую даўнасьць. Якраз яно спрычынілася да ведамае тэатральнае дыскусіі 27-28 году. Патрабаваньні вызваліць беларускую сцэну ад залевы перакладнага расейскага рэпэртуару ўжо тады выклікалі войстрае партыйнае супрацьдзеяньне. ЦК КПБ прыняў спэцыяльную пастанову, якой абвяшчалася змаганьне супраць «нацыянал-дэмакратычных тэндэнцыяў ... супраціву капіталістычных элемэнтаў». Таму, што тая дыскусія ня траціць пякучае актуальнасьці ды каб папярэдзіць ейны водгук, пра яе й сяньня афіцыйна згадваюць, называючы варожай нацыяналістычнай вылазкай.

Чужая палітыка адабрала ад беларускага грамадзтва ў БССР ўсялякую магчымасьць забіраць голас у справе разьвіцьця свайго нацыянальнага тэатру, публічна бараніць ягоную самабытнасьць. Безнадзея на лепшае ды пагрозьлівы партыйны вокрык за найменшае выяўленьне собскага ўспрыняцьця жыцьця, як гэта апошнім часам напаткала Макаёнка за камэдыю «Каб людзі ня журыліся», — зьявілася прычынаю таго, што на апошнім пісьменьніцкім зьезьдзе ніхто з драматургаў ня выступіў.

Варта зацеміць, што на папярэднім зьезьдзе й на чародных па ім сходах пісьменьнікі, хоць і асьцярожна, але выказалі сваё незадаволеньне тэатральнымі справамі ў БССР, наракалі на абмежанаванасьць ліку беларускіх тэатраў. Прыкладам, няма ніводнага прафэсійнага беларускага тэатру ў заходніх раёнах рэспублікі. У старавечных беларускіх местах Берасьці й Горадні маюць сталае аселішча тэатры **расейскія.** Зроблена гэта дзеля прысьпешнай дэнацыяналізацыі заходняе Беларусі, улучанае ў падсавецкасьць на два дзесяцігодзьдзі пазьней за Беларусь усходнюю. Гэткі кірунак бальшавіцкае нацыянальнае палітыкі. У часе польскае акупацыі савецкая прапаганда старанна спэкулявала з нацыянальнага паняволеньня заходняе Беларусі. Сяньня з волі партыі гвалтоўную пальшчыну заступілі гвалтоўнай **расейшчынай.**

Саветызацыя нашага тэатру была адначасна й дэнацыяналізацыяй яго. Характэрна, што на тэатральнай сцэне, як і ў літаратуры, першай ахвяраю савецкае цэнзуры сталіся Купалавыя творы. Ягоная п'еса «Тутэйшыя» трапіла пад забарону, як нацыяналістычная, адразу па першым паказе ў 1926 годзе ў тэатры, якому дзеля спэкуляцыйных мэтаў па сьмерці паэта партыя прысвоіла ягонае імя.

Зьвяздоўская «казачная кветка» з хрушчоўскай сямігодкі, як сьветчыць пачатак, ня вылучаецца адменнымі колярамі. Тэатр навет адно ў беларускай мове, не кажучы ўжо пра ягоную нацыянальную самабытнасьць, трыманую пад неадхланнай забаронай, не зьяўляецца пажаданым, а толькі вымушаным і часовым для партыйнай палітыкі. Вось чаму і ў хрушчоўскай сямігодцы, абвешчанай «Зьвяздою» пачаткам «новае культурнае рэвалюцыі», не знайшлося месца хоць-бы для колькаснага пабольшаньня беларускіх моваю прафэсыйных тэатраў у БССР. Відаць, чужая антыбеларуская палітыка прастуе да свайго завяршэньня.

**АНДРЭЙ МАКАЁНАК** 9)

# Каб людзі ня журыліся

**Камэдыя ў 4-х актах**

**Гудзееў:** За каго мяне тут прымаюць? За дурня?

**Ліхтароў:** Ня будзем удакладняць. Гэта не мае функцыі.

**Гудзееў:** А ўсё-такі дзе тыя грошы, якія ўтаргавалі за бычкоў? Наколькі мне вядома, у банк на ваш рахунак яны не паступалі.

**Ліхтароў:** Пазатыкалі імі дзюркі на фэрме ... Купілі шыфер, куплялі бэнзыну, правялі вадаправод на фэрму. Ды ці мала прарэх у нашай гаспадарцы? Сіласныя траншэі збудавалі.

**Гудзееў:** Бязь ведама банку? А вы ведаеце што гэта незаконна?

**Ліхтароў:** Ведаем. Але што зробіш? Другія крэдытары падарозе страчалі і ... хочаш ня хочаш, а кішэні спаражнялі.

**Гудзееў:** Так і запішам ...

**Ліхтароў:** Запішыце яшчэ.

**Гудзееў:** Што?

**Ліхтароў:** Што чатырыста рублёў, якія вы ўнесьлі за воз сена, мы ўсё-такі афармілі ў банку. Для памяці.

**Гудзееў:** Я гэта запомніў.

**Ліхтароў:** І мы не забылі.

Уваходзіць Самасееў.

**Самасееў:** Добры дзень, таварыш Гудзееў. Вы мяне звалі?

**Гудзееў:** Так. І вы мне патрэбны. Апрача таго, таварыш Ліхтароў, прашу вас выклікаць сюды людзей па гэтаму сьпісу. (Падае Ліхтарову паперку.)

**Ліхтароў:** Рад старацца. Толькі дарэмна гэта ўсё.

**Гудзееў:** Ня ваша справа.

Ліхтароў выходзіць.

**Самасееў:** Ну, як жывецца, таварыш Гудзееў?

**Гудзееў:** Ня лёгка. Вось прыехаў ваяваць з вашым Кавальчуком.

**Самасееў:** Ён-жа ваш, вы яго прывезьлі.

**Гудзееў:** На сваю галаву.

**Самасееў:** Так вам і трэба. Цяпер чухайце патыліцу. Ня тое, што зы мной. Бывала, прыедзеце, загадаеце — і я із скуры вылезу, а ўсе ўказаньні выканаю.

**Гудзееў:** Нічога. Абламаем і яму рогі. Прывыкне.

**Самасееў:** Дай Бог чутае бачыць.

**Гудзееў:** Слухай, Самасееў, а пайшоў-бы ты зноў сюды старшынём?

**Самасееў** (узрадаваўся): Што, рашылі зьнімаць яго?

**Гудзееў:** Усё можа быць.

**Самасееў:** Я сябра партыі, дысцыпліну ведаю. Загадаеце — пайду.

**Гудзееў:** Тут на яго матар'ялаў накапілася — цэлы стос.

**Самасееў:** Што? Паступіла ўказаньне зьняць яго?

**Гудзееў:** Не, пакуль што праверыць. Тут скаргі калгасьнікаў. Праўда, бяз подпісаў. Прызнайся, ты прыклаў руку.

**Самасееў** (азірнуўся, крыху саромеючыся): Ёсьць і мая работа.

**Гудзееў:** Я адразу здагадаўся. Па сталю. Усе пісьмы — на адзін капыл.

**Самасееў:** Як умеў. Спэцыяльнай асьветы ня маю.

**Гудзееў:** Ну што-ж, я буду аб'ектыўны. Што пацьвердзіцца, аб тым і дакладаць буду. У цябе яшчэ што да пісем дадаць ёсьць?

**Самасееў** (задумаўся): Можа, спэкуляцыю?

**Гудзееў:** Якую?

**Самасееў:** Палітычную.

**Гудзееў:** Ну-ну, цікава.

**Самасееў:** Кавальчук спэкулюе калегіяльнасьцяй кіраўніцтва. Каб застрахаваць сябе ад адказнасьці й прыкрыць сваю дейнасьць, ён, па сутнасьці, хаваецца за сьпіны людзей. Маўляў, праўленьне рашыла, агульны сход рашыў, а на справе — усё сам камандуе.

**Гудзееў:** Гэта паважнае абвінавачаньне. А доказы?

**Самасееў:** Хлебазакуп. Заместа сарака тон — дваццаць.

**Гудзееў:** А ты не такі прастак.

**Самасееў:** Раней было і вам лягчэй. Прыехалі ў калгас і ведаеце аднаго гаспадара — старшыню. А пры ім ня — тое. Абы што якое, дык ён — хай народ рашае, народ гаспадар. Ведаем мы такіх народнікаў. Проста савецкую ўладу не паважае народнік гэты.

**Гудзееў** (ацэньвае): Так, так, так ... Ну, а яшчэ што?

**Самасееў** (зноў задумаўся): Пакуль што, здаецца, усё. Я-ж пісаў там ...

**Гудзееў:** Апроч напісанага.

**Самасееў:** Пакуль нічога. Але я зь яго вачэй ня спускаю.

**Гудзееў:** А каго-б ты параіў дапытаць, каб пацьвердзіць усё гэта?

**Самасееў:** Я-ж пісаў.

**Гудзееў:** А ўдаву гэту, у каторай ён жыве?

**Самасееў:** Ну не, яна зь ім у вадну дудку грае.

**Гудзееў:** Нічога ты ня ведаеш. Яна сяньня пры мне сказала яму, каб выбіраўся зь ейнае хаты.

**Самасееў:** Паважна? Можа, тут пахне бытавым разлажэньнем?

**Гудзееў:** А ты пацікаўся, пагавары. Скажы, каб прыйшла да мяне.

**Самасееў:** Калі так, абавязкова.

Заходзяць Цярэшка й іншыя калгасьнікі.

**1-шы калгасьнік:** Дык гэта сюды нас выклікалі?

**Гудзееў:** Па аднаму, таварышы, па аднаму. Ня ўсе адразу. Вось вы, здаецца, загадчык фэрмы, застаньцеся.

Цярэшка застаецца, а калгасьнікі выходзяць.

А вы, таварыш Самасееў, можаце йсьці.

Самасееў, выходзячы, за сьпіной Цярэшкі падае знак Гудзееву: гэтага, маўляў, прыцісьні.

**Цярэшка:** Добры дзень.

**Гудзееў** (кіўнуў галавой): Сядайце.

**Цярэшка:** Пагалоўе?

**Гудзееў:** Правільна. Пагалоўе.

**Цярэшка:** Плян?

**Гудзееў:** Плян.

**Цярэшка** (разводзіць рукамі): Я так і ведаў ... Ну што-ж ... выбачайце, няма пляну.

**Гудзееў:** Разбазарылі?

**Цярэшка:** Прадалі. Толькі бычкоў.

**Гудзееў:** Няважна каго, пагалоўе. А чыя ініцыятыва?

**Цярэшка:** Кавальчук гаворыць, што мая.

**Гудзееў:** А на самай справе? Яго?

# Літаратурны Дадатак

*Міхась Кавыль*

## Чорны лёд

**(Вянок санэтаў)**

### МАГІСТРАЛЯ

I

Грымотнай лявай рыне чорны лёд...
О, час жаданы у духмяным чадзе!
Маніць пра вернасьць, дакарацьу зрадзе,
Пусьціцца-б у вясёлы карагод.

Ды тускне золак рамантычных цнот.
Мы толькі кроплі ў бурным вадаспадзе.
Лавіць віхуры маладой пляядзе,
Спачыць бы ўрэшце ў моўкнасьці цянёт.

Пярэстай восені пажоўклы сум,
Клясычныя мяцеліц белых скокі —
Паэтаў сьвет, прывабны а шырокі.

Упаду боль а горыч мне знаёмы,
Аскепак сонца у грудзёх нясу,
Шапчу санэт, ад магістралі сёмы.

II

Грымотнай лявай рыне чорны лёд,
Трашчаць мастоў натужаныя жылы,
Прабуюць сілу роздыхі Ярылы.
Штурмуй, крышы, бурлі, вадаварот!

Ружовых вуснаў сьпелых мляўкі мёд,
Спатканьня момант трапяткі і мілы.
А сьлёзы ростані? Каханьня крылы
Імкнуць у новых чараў пераплёт.

Вясна. Пара цьвіценьня і кунегі.
Гартае шчасьця, радасьці струмень
Твае гады, лірычных песьняў кнігі.

Бунтуе рунь на сьветлым даляглядзе,
Жарэбчык рэхча, йрвецца на пругмень.
О, час жаданы у духмяным чадзе!

III

О, час жаданы у духмяным чадзе,
Чарэмхі водыр, бэзу буйны хмель!
Калыша ноч пялёсткаву бель,
І ты адна, прысьнёная, у садзе.

Пяюць зарніцы у тваім пагглядзе,
Дурманіць вуснаў сакаўная сьпель;
Садзіцца сэрца соладка на мель...
Дзе мы, пад дзічкаю, хіба прысядзем?

Ляцеце ў даль зь вятрамі, успаміны!
Мяне мінаюць, што той корч, дзяўчыны.
Сабака толькі зьвягне наўздагон...

Паблякла ўсё. Блакітны сон адзадзе.
Каму сягоньня выпаў шчасны кон
Маніць пра вернасьць, дакарацьу зрадзе?

IV

Маніць пра вернасьць, дакарацьу зрадзе
Ў пяшчоце чыстай — першы запавет.
Юнацтва вабіць, грэе іншы сьвет:
Ім сьняцца мэтадоры у Гранадзе,

Агні няведамых краёў, плянэт,
Князёўны госкія ў кунежнай звадзе,
Ці коньнік войны ў маршы на парадзе
Акторка слаўная, пяюн, паэт...

Салодкі баль, ды горкае пахмельле.
Жыцьця шарэш, бы кіпцюрамі кот,
Паржэа боразны на кволым целе.

Вярба-ж каткамі срэбранымі звоніць,
І падмывае кроў маю гармонік.
Пусьціцца-б у вясёлы карагод?

V

Пусьціцца-б у вясёлы карагод,
Скакаць, лявоніць зь любай да зьнямогі;
Правёўшы з маршам клопаты, трывогі,
Стаяць да першых пеўняў ля варот.

Або пайсьці жытамі у вабход
Туды дзе сьпяць бярозы ля дарогі,
Памыць крынічнаю вадою ногі,
Блукаць, пакуль расьплюшчыць вочы ўсход.

Было звычайна, проста і прыгожа:
І выган той з жардзянай агароджай,
Вятрак на ўзгорку, з частаколу плот...

Адна пчала да скону смокча слодыч,
Гніюць пад сонцам мёртвыя калоды,
Ды тускне золак рамантычных цнот.

VI

Ды тускне золак рамантычных цнот,
Праніжа джала павуціну клетак.
Чысьцюткі сок, што цёк у жылах кветак,
Прагоніць смагу ўскрыленых істот.

Пульсуе рошчын набрынялых сот...
Цябе агорнуць думы й лямант дзетак.
Так восень хмурая з кашулі лета
Сьцюдзёным дыхам змые глілкі пот.

Дармо. Маўчы! Забудзься у тварэньні!
Успыхне зьнічка шчасьця ў сутарэньні.
У горы цяжкім радасьці пачын.

Пчаліне — мёд, а чалавеку — чын,
Кудзейніку — штукарствы на эстрадзе.
Мы — кропелькі у бурным вадаспадзе.

VII

Мы — кропелькі у бурным вадаспадзе.
Гляджу на Ніягару. Дзіўны створ.
Шуміць вада, а мне здаецца бор
За Шышычамі... Дзе, я-ж у Канадзе.

Стыхіі веліч з мроямі ў суладзе.
Граніт і хвалі, наступ і супор!
Каб як падслухаць таямніцы зор —
Пачатак вершу новаму, балядзе.

Трасецца, стогне пад нагамі глеба,
І неяк страшна паглядзець на неба:
Вісіць на месяцы сабачы хвост...

Стае Арэс на ўвесь суворы рост...
Бывай, спакой! У вышнім ёсьць загадзе:
Лавіць віхуры маладой пляядзе.

VIII

Лавіць віхуры маладой пляядзе,
Змываць крывёю заскарузлы струп;
Адны за ланцугі няволі, йзруб,
Другія — за шляхотнае суладзьдзе.

Змагуцца сьціты, прагныя ў нападзе,
Зямлі шчасьліўцы перавяжуць пуп;
Лясун падорыць дыназаўраў зуб
Дрыядам, ацалелым, на усгадзьдзе.

Прайшлі так шмат, праехалі ці мала,
Агнём нас навальніца віншавала
Ды сьцёбаў па паджылках кулямёт.

Пад кустам кій паставіўшы дарожны,
Шпурнуўшы келіх, выпіты, парожны,
Спачыць-бы ўрэшце ў моўкнасьці цянёт.

IX

Спачыць-бы ўрэшце ў моўкнасьці цянёт.
Калі падрэжа зыбавіца душу.
О, так. Улевы блiскавічнай душам
Прыемна змыць даўгіх дарог налёт.

Тады так лёгка дыхаць. Пругкі дрот
Напятых нэрваў млее, цяжка ўзрушыць.
Прароцтвы думных пра сусьвету крушу
Іклы завацюць у сухі чарот.

Паслухай толькі, што гамоняць людзі:
Канец надходзіць, мор, зьгібеньне, глум;
Прагольфіў гэты, гэны не марудзіць...

Ды меч сатыры сьвідзе ў запасе.
Чакаю дня. Пратну ў вірлатым страсе
Пярэстай восені пажоўклы сум.

X

Пярэстай восені пажоўклы сум
Пакратаў струны йскрыпак адпяяных.
Далёкая у строях саматканых,
Занесла сьмерць халодную касу.

Вятры зямлі і неба сплаў трасуць.
О, гэты шорах чорнае сутаны!
Пяе лісьцё паліваю мядзянай
І роніць сьлёзы, срыбную расу.

А мы? Глядзім займглёнымі вачыма
Ў нямую высь праз завалоку хмар,
Чакаем, спадзяёмся. Ці-ж магчыма?

Гучней, мацней яе глухія крокі...
Любіў ты, кажуць, стомлены змагар,
Клясычныя мяцеліц белых скокі?

XI

Клясычныя мяцеліц белых скокі,
Рытмічныя, разьмераныя «па».
Тут «Крыжачок» квяцісты, там «Гапак»...
Дрыжаць дубы, пабраўшыся у бокі.

Мароз прыймчаў ад поўначы далёкай,
Вазёры, рэкі шклом ён заклапаў;
Пытлюе зь неба зманная крупа,
Глытаюць сьлінку бедныя сарокі.

Храпе мядзьведзь на печы у мярлозе,
Мяце лісіца залатым хвастом
Лірычны эпілёг паэмы ў прозе.

Шугае лес, чапурыцца высокі,
Ды зачыню зімы завейны том,
Паэтаў сьвет, прывабны а шырокі.

XII

Паэтаў сьвет, прывабны, а шырокі.
Яму найлепшы вэлюм — супакой.
У час тварэньня мастака рукой
Багі кіруюць, думныя прарокі.

Пакута, роспач — харства вытокі,
Бруіцца песьня вольнаю ракой;
Настроіць леру мужную, якой
Праславіць накананованыя рокі.

Шчасьлівы той, хто на жалейцы ў полі,
Цяплом прыгрэты роднае зямлі,
Падлеглы Богу аднаму, сваволіць.

Палац Парнасу паміж скалаў стромых.
О, колькі кволых буры зь іх зьмялі!
Упаду боль а горыч мне знаёмы.

XIII

Упаду боль а горыч мне знаёмы:
На брудным дне панурых камяніц
Таўклі каленьмі, распластаўшы ніц,
Заплечных спраў адпасьвеныя гномы.

---

**Цярэшка** (падумаўшы): Не. Трэба мне на сябе браць усё.
**Гудзееў:** А навошта чужую віну на сябе браць?
**Цярэшка:** Ды яно, калі пагаспадарску думаць, і віны ніякай няма. Бычкоў загналі — кармы эканомім. Ізноў-жа даглядчыц і пастухоў меней — працадні эканомім. А за бычкоў тых грошы выручылі — фэрму ў парадак прывялі. Восеняй кастрамскіх цялушачак купім зь дзесятак. І фэрма як у людзей будзе.
**Гудзееў:** А пакуль што плян пагалоўя сарвалі?
**Цярэшка:** Я толькі аднаго не магу ўцяміць: чаму вас так непакоюць бычкі нашы?
**Гудзееў:** Гэта ня проста бычкі. Гэта — справа вялікай дзяржаўнай палітыкі.
**Цярэшка:** Калі вас, вялікага палітыка, так непакояць мае бычкі, тады ці ня варта мне занепакоіцца тваёй палітыкай. Тут нейкія нялады.

Заходзіць Ліхтароў.

**Гудзееў:** Пачакайце, пачакайце там.
**Ліхтароў:** Мне-ж працаваць трэба.
**Гудзееў:** Вам сказана, пачакайце.

Ліхтароў пацiснуў плячыма й выйшаў.

**Цярэшка:** Ён нам не перашкодзіць.
**Гудзееў:** Так, так. Дык што вы сказалі?
**Цярэшка:** У вас другіх спраў няма? Ідзеце вы лепей рыбу вудзіць — і вам прыемнасьць будзе, і нам спакайней. А з бычкамі мы як-небудзь самі разьбярэмся. (Устае і накіроўваецца за дзьверы.)
**Гудзееў:** Якая нагласьць! Якая разбэшчанасьць тут!

Расчыняюцца дзьверы, і ў кантору заходзіць група калгасьнікаў. Сярод іх Аксіньня, Самасееў, Сенька-Заіка, Ліхтароў, 1-шы й 2-гі калгасьнікі; Цярэшка спыніўся ля дзьвярэй. Апошнімі заходзяць Кавальчук і Грачоў.

**Галасы калгасьнікаў:** Нас выклікалі сюды. Нейкае сьледзтва вядзецца. Час такі гарачы — хвіліна дорага. На полі гарыць усё, а яны выдумляюць.
**Кавальчук:** Таварыш Гудзееў, я-ж вас прасіў не адрываць людзей ад работы. А вы паўбрыгады сабралі сюды.
**Гудзееў:** Таварыш Кавальчук, вы добра ведаеце, што я выконваю даручэньне пэўных органаў.
**Кавальчук:** Прашу вас, адкладзіце да вечара.
**Гудзееў:** Не магу. У мяне абмежаваны час.

Паўза.

**Сенька-Заіка:** Старшыня, не дастаў бэнзыны. М-можа, таварыш Гудзееў дасьць машыну...
**Гудзееў:** Якую машыну? Куды машыну?
**Аксіньня:** Хворага хлапчука ў больніцу завесьці.
**Сенька-Заіка:** В-вашу машыну.
**Гудзееў:** Хворага? Заразнага? Не магу. Я не за сябе баюся... Мне зь людзьмі работаць. Не магу...
**Кавальчук:** Дзякую за шчырасьць. (Падыходзіць да тэлефону, звоніць). Алё! Прашу вас, дайце раённую больніцу. Алё! Гаворыць старшыня калгасу «Вольная праца». Вельмі вас прашу: прышлеце машыну хуткай дапамогі. У нас захварэў хлопчык... Падазрэньне на дыфтэрыт... Што? Была-б магчымасьць, не званілі-б вам... На бяду, якраз ні грама бэнзыны. Так... Добра! Вельмі прашу. Чакаем. Дзякую.
**Аксіньня:** Прыедуць?
**Кавальчук:** Абяцалі. (Калгасьнікам.) Сьледзтва адмяняецца. Ідзеце, таварышы, працаваць. Кажная хвіліна дорага.

Калгасьнікі выходзяць.

**Гудзееў:** Вы што?

Прыбегла Юля.

**Юля:** Цётка Аксіньня!.. Там Колька... паміраe... пасінеў... задыхаецца... Памажэце! Цётка Аксіньня!.. (Плача.)
**Аксіньня:** Ты што... Ты што сказала?
**Кавальчук:** А дзе-ж наш доктар?
**Юля:** Яна там, з Колькам...
**Кавальчук:** Слухайце, вы! Каб праз пяць хвілін вашай нагі ня было ў калгасе!
**Гудзееў:** Што-о? Ну, я гэтага не пацярплю! Гэта стане вядома ў райкоме... і ў абкоме... і ў ЦК! Гэта нябывалае! Гэта чорт ведае што! Я афіцыйная асоба! Вы адкажаце перад бюро райкома!

Аксіньня й Юля выбеглі з канторы.

З А С Л О Н А

### АКТ ЧАЦЬВЕРТЫ

ПЕРШАЯ СЦЭНА

Хата Рамана. Перад люстэркам Юля й Маланка прымяраюць новыя сукенкі. Назьмену становяцца перад люстэркам. Вечарэе.

**Маланка:** І чаму ты такая кіслая, Юлька? Заўтра сьвята, Кастрычнік, а ты...
**Юля:** Я й сама ня ведаю, чаму... Толькі на душы так нявесела, так сумна...
**Маланка:** Ну і... А можа, ты яшчэ па Кольку перажываеш?

Юля маўчыць.

Два месяцы прайшло ўжо, а ты... Нельга-ж так, Юлька... Ці ты вінавата? Ну здарылася няшчасьце — што-ж ты зробіш цяпер? Усё роўна ня вернеш... Ці мала ў людзей бывае няшчасных выпадкаў?

Юля маўчыць.

А можа, у цябе другое штосьці? Можа, пакрыўдзіў хто? А?
**Юля:** Ды не. Проста неяк цяжка на душы і ўсё... От быццам нешта нядобрае павінна здарыцца зы мною. Прадчуваньне такое...
**Маланка:** Выкінь ты з галавы гэта глупства... «Прадчуваньне такое»... Ну што з табой можа здарыцца?
**Юля:** Каб-жа я ведала... Бацьку сяньня сьніла...
**Маланка:** Ну і што? Нічога з табой ня здарыцца. Прэміі за лён мы з табой сяньня адхопім. На праўленьні ўжо вырашылі, не адменяць. І старшыня паслаў бухгальтара ў горад купіць нешта. Толькі чаму яны ў сакрэце трымаюць, якія прэміі.
**Юля:** Сюрпрыз хочуць паднесьці.
**Маланка:** А можа, мне не спадабаецца.
**Юля:** Табе — лялечку купяць. Спадабаецца?
**Маланка:** Мне лялька ня трэба. Замуж выйду — жывая будзе. (Падыйшла да люстэрка й зноў разглядае сябе ў новай сукенцы.) Ну й дурні нашы хлопцы! Няўжо яны не заўважаюць, што я таксама прыгожая?

Трывожаць **сон крывавыя** пагромы,
Амурскіх вочы рыжыя тыгрыц.
Паіў Сібір мяне іржой крыніц,
Каб·высмаг водыр бацькаўскага дому.

А тут свае цаляюць у пачонкі,
Лыгаюць волю ў жорскія пастронкі.
Ці-ж я з радні дрыготнаму трусу?

Ля ног тваіх малюся, Ўсемагутны:
Дай моцы пратрываць! Зямлі пакутнай
Аськепак сонца у грудзёх нясу.

XIV

Аськепак сонца у грудзёх нясу.
Каторы год сьвяты агонь струменіць.
У ім мае спадзевы і імкненьні
Пяшчотна сьпеляць срогую красу.

Віхор сьцінае часта паласу,
Расьце асот, чарнобыль на каменьні;
Тады адскочыш толькі ў нездаўменьні,
Бы трапкачом ушчунены ласун.

Ці першы раз мяне нядолі тузаць
І нагароджваць срыбрам буйных сьлёз
Цябе, натхняльніца паэты, Муза?

На дзяснах тоны горкае аскомы,
Ляціць Пэгас крылаты насукос,
Шапчу санэт, ад магістралі сёмы.

XV

Шапчу санэт ад магістралі сёмы
І стаўлю кропку, чорны амулет;
Шукаю ў картах таямніц, прыкмет:
Віновы туз, чырвовы каля дому...

Наўсьцяж шляхоў вядзьмарныя заломы,
Сьлінявіць вусень васількова цьвет;
Збаўляе ўвішна градусы імпэт,
Нагу паэту падстаўляе стома.

Але ўськіпае кроў бруёй напеву,
Брыняе слова мужным згукам гневу:
Гукае Край Забраны у паход.

Стаю у шыхце воіў на праверцы.
Служу красе. Хай міма майго сэрца
Грымотнай лявай рыне чорны лёд!

**24 лютага 1958 г. Саўт-Рывэр, ЗША.**

**Міхась Кавыль**

Пасьцілаецца вяла, няпэўна
Перамога зямных перамог.
Засынае нямая царэўна
Сярод сплеценых ценяў дарог.

24. VIII. 1958 г.

*
* *

Час бяжыць, а гора скача,
**Песьні прыкрыя пяе,**
За няўдачаю няўдача
Рэжа высілкі твае.

Бурай скрышана нямала
На прасторах родных ніў.
Адным крыльлі паламала,
Другіх верас прытуліў.

Многа вынесена намі,
Многа церпім яшчэ мук.
Што пасеяна дзядамі —
Ураджай зьбярэ унук.

Хай калосіцца ідэя!
Выпʼем келіхі да дна,
**Хай душа павесялее**
Хмельнай радасьцяй віна.

Дык узьнімем дружна чаркі —
Сьвет праменьняў залаты,
Каб у нас ня было сваркі,
Каб жылі мы як браты.

25. II. 1958 г. (У 45-ю гадавіну нараджэньня).

**Ул. КЛІШЭВІЧ**

## *Ул. Клішэвіч*

# ВЕРШЫ

**СЬЦЯГАЧ**

Прыгадваю — дух замірае.
Балюча — маўчы, не маўчы.
Была у нас вёска старая,
А звалі яе Сьцегачы.

Закляцьцем павейвала нейкім,
І сьвет адмысловы такі,
Жылі там удовы, калекі,
А болей за ўсё — прымакі.

Валіліся зь неба няшчасьці,
Спакою людзям ня было.
У тых, што няма чаго красьці,
Гарэла штотыдня сяло.

А бедным ніхто не паможа,
Бяда за бядою ідзе,
І градам як вылупіць збожжа,
Што рукі да неба ўзьвядзеш.

Сябе прыгадаў я самога,
Бяры хоць ад болю заплач.
Плыве сьцегачовых дарога,
А я самы большы Сьцягач.

Пратапталі касіцай коні
Серабрыстасьць вясновых траў.

Покуль раніцай хлеб замесяць
І накрыюць кажухам дзяжу,
Я жыву маладосьцяй песень,
Успамінаў карункі вяжу.

Певень звонкую песьню заводзіць.
Як на зло да вакна падыйшоў.
Сьняцца сны залатыя Валодзі,
Высьцілаецца травамі шоўк.

10. IV. 1958 г.

25. XII. 1958 г.

*
* *

Ноч усходам зарніцы клоніць,
Першы промень туман прадраў.

*
* *

Цішыня над зямлёю павісла,
Ні душы не спаткаеш нідзе.
Месяц круглаю мордаю кісла
Разламаўся на двое ў вадзе.

Пазірае ён бокам на зямлю,
**Зухавата да хмары прылёг.**
**Квола пальмы санлівыя дрэмлюць**
Панад сплеценай цемрай дарог.

Мільганула зза хмары касіцай,
Успамін на вяршыню узьнёс.
Не магу на чужыне напіцца
Глыбінёй прыгажосьці нябёс.

Здэцца мне памахаў ён варожа:
— Шчасьця людзям зямлі не вязу.
Тыя толькі на пальцах варожаць,
Хто губляў за сьлязою сьлязу.

# *Аб паэзіі сэрца*

Апошнім часам я моцна захапляюся паэзіяй. Чытаю нашых старых песьняроў, цешуся мастацкімі хварбамі, барамі, вазёрамі і, пэўна-ж — каханьнем. Якая-ж без каханьня паэзія сэрца? Ну і вось надумаўся я, мае дарагія, крыху савецкай беларускай паэзіі пачытаць; ня можа быць, думаю, каб ня было там нашай беларускай паэтычнай прыроды, нашай Богам дадзенай лірычнай натуры. І што-б вы думалі? І на савецкай зямлі, у бэсэсэрыі, таксама паэты пра сэрца пішуць, толькі неяк ня так, як старыя песьняры пісалі.

Вось, напрыклад, паэта Танк лічыць сваё сэрца компасам, які і турбіннаму самалёту хату пакажа:

«Шлях зваротны да хаты
Я знайду і па компасу «сэрца!»

гаворыць Танк у вершы «Зорным шляхам».

Добра, вельмі добра, толькі вось няўвязка вялікая: — паэтава сэрца надта прыліпчывае: едзе ў Польшчу — там яго пакідае, зьлятае ў Кітай — там хоча

«І песьню і сэрца пакінуць».

І так усюды: дзе толькі гэтак званая народная дэмакратыя, там наш паэта і сэрца сваё прывязвае. Дык як-жа гэта сэрца-компас дарогу дадому пакажа, калі кажная прасавецкая краіна будзе той компас да сябе цягнуць. Так і Беларусь сваю згубіць можна лёгка, любыя вы мае!

Асабліва падабалася Танку тая «свабода» ў Кітаі:

«Грыміць і кружыць вогнены віхор
Фэерыя ракет, вясёлка зор...
І гэта ўсё — у гонар твой, Свабода!»

Шкада толькі вось, што забыўся паэта пра кітайскія камуны, куды зганяюць народ кітайскія камуністыя.

Паэта Броўка, напрыклад, дык той сваё сэрца ператварыў у нешта накшталт скарахода:

«За дзень маё сэрца пасьпее
І сьвет наваколл абыйсьці»

Броўка, навет, сэрцам прысягаць налаўчыўся; іншыя толькі руку ўгару цягнуць за партыйную лінію, а Броўка дык сэрца вымае й высока партыі яго падносіць у цыклі сваіх вершаў «Прысяга сэрцам». На ўсялякія трыкі здатны гэты Броўка. Гэтак вось і трапілі сэрцы некаторых нашых паэтаў у партыйную няволю, што й часу ня маюць цешыцца прыродай, каханьнем... **Калі-ж, часам** той ці іншы паэта не напіша, напрыклад, пра Порт Саід ці Лібан, а захопіцца запраўднай паэзіяй сэрца, дык літаратурны палітрук Броўка і да яго падобныя адразу-ж залюлюкаюць:

«Яго за гэта
Пазбавіць годнасьці паэта!»

І пазбаўляюць з усімі, як кажуць, «арганізацыйнымі вынікамі». Быў паэта й ня стала паэты. І запраўдная паэзія сэрца тады зьнікае, а зь ёю — і шчасьце творства, і высокая місія паэты.

А вось што гаворыць адзін малады паэта пра долю партыйнага паэты:

«Мяне ў прэзыдыюм, як толькі сход,
Заўсёды выбіраюць, ды дарма:
Сяджу ў прэзыдыюме трэці год,
А шчасьця ўсё няма!»

Так шчасьця ад паэзіі партыйнага заказу ня было й няма!

І вось, даражэнькія, адкідаю я непаэтычныя зборнікі ды бяру ў рукі стары томік Купалы. Адкрываю балонку — і дыхае на мяне водыр запраўднай паэзіі сэрца! О, якое вялікае шчасьце — задавальняць сябе не партыйнаю нудою, а агульна людзкім: сонцам, блакітам нябесным, гаямі, шумам палёў, люстранымі вазёрамі роднага краю — запраўднай паэзіяй сэрца.

**(Р. С.)**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

**Юля:** Адзін даўно заўважыў.
**Маланка:** Думаеш — заўважыў?
**Юля:** Ня прытварайся.
**Маланка** (ня зусім задаволена): Толькі адзін Міша...
**Юля:** (займаючы месца Маланкі перад люстэркам): А колькі табе трэба?
**Маланка:** Усе! Учора я табе так пазайздросьціла... Калі мы зайшлі ў раймаг, дык усе хлопцы, што там былі, адразу ўтаропіліся на цябе. (Уздыхнула.) Навет пазабываліся — чаго і ў магазын прыйшлі. А ты, ох і хітрая-ж ты — быццам і не заўважаеш іх.
**Юля:** З хлопцамі заўсёды трэба быць срогай. Гэта іх больш інтрыгуе.
**Маланка:** Ах, як табе да твару гэтая сукенка. І бюст, і ў таліі так хораша. Толькі можна было-б глыбей выраз на грудзях.
**Юля:** Навошта?
**Маланка:** Больш інтрыгуе...
**Юля:** Ня дуры галавы! Сукенка вельмі добрая.
**Маланка:** Дзіва што! Пяцьсот рублёў. (Займае месца перад люстэркам.) Наша модніца — доктарка маладая, заўтра лопне ад зайздрасьці, калі ўбачыць нашы абновы.
**Юля:** А я — ёй зайздрошчу.
**Маланка:** Чаму там зайздросьціць?
**Юля:** Ўсё-такі — доктар, інтэлігентны чалавек, а мы што? Так сабе, у гнаі корпаемся — зьвеньнявыя па лёну...
**Маланка:** А памойму — зь лёнам прыемней вазіцца, чым калупацца ў чыіх-небудзь гнілых зубах. Фу! Гадасьць! А зарабіла я сёлета ня менш за яе.
**Юля:** А на той год?
**Маланка:** І на той год пастараюся. А цябе ўсё яшчэ вабіць канторская прафэсія? Чым ты горшая за любую канторскую барышню? Ты падумай. От Васіль — ня дурань хлопец: палюбіў ня доктарку і не якую-небудзь інтэлігентную асобу... А ён-жа ўсё-такі інжынер.
**Юля:** Ён табе падабаецца?
**Маланка:** Вельмі. А табе?
**Юля:** І мне...
**Маланка:** Ну вось і выходзь замуж. А то, далібог, адабʼю.
**Юля** (паўжартаўліва): Сьпяшаюся, аж падаю. Толькі-ж ён не бярэ.
**Маланка:** А-а... Можа, таму ты нешта прадчувала? Можа, ад таго і на сэрцы нявесела? А?
**Юля:** Можа...
**Маланка:** А-а... Ну дык гэта глупства. (Глянула ў вакно.) Тваё прадчуваньне... (Нешта заўважыла на вуліцы.) Вунь яно, тваё прадчуваньне, глянь, ідзе... (Юля й Маланка глядзяць у вакно.) Сюды павярнуў. К табе. Можа, мне пайсьці? Можа, я вам буду перашкаджаць? А?
**Юля:** Не-не-не, Маланка! Застанься.
**Маланка:** А ты душой ня крывіш? (Таропка.) Глядзі! Чуеш? А то пайду. А? Чуеш? Юля!
**Юля:** Не, Маланка, я прашу цябе, застанься.
**Маланка:** Ну глядзі, а то будзеш каяцца...

У хату заходзіць Васіль.

**Васіль:** Добры вечар!
**Юля** (проста): Добры вечар.
**Маланка** (гульліва): Добры вечар.
**Васіль:** Якія вы сяньня прыгожыя, дзяўчаткі!
**Маланка:** І я?
**Васіль:** Навет і ты.
**Маланка:** Сход скора пачнецца?
**Васіль:** Толькі вас не стае.
**Маланка:** А бухгальтар прыехаў з гораду?
**Васіль:** Прыехаў.
**Маланка:** А ты ня ведаеш, якія ён падарункі купіў нам для прэміяў?
**Васіль:** Ведаю.
**Маланка:** Дык чаго-ж ты маўчыш, Што? Што ён прывёз?
**Васіль:** Нешта прывёз, але гэта сакрэт.
**Маланка:** Ну Вася, ну залаценькі, ну даражэнькі, ну скажы. Юля, скажы яму!
**Юля:** Не гавары, Вася, не гавары.
**Маланка:** Ах, дык вось як ты! (Накідаецца на Юлю і, жартуючы, пачынае лупцаваць яе).

Адчыняюцца дзьверы, і ўваходзіць Раман. Паўза.

**Юля:** Тата! (Кідаецца яму на шыю. Плача.)
**Раман:** Ну-ну, дочка... ну... што ты? Ну! (Ласкава.) Ах ты-ты... Перастань... (Гладзіць яе па галаве.) Вярнуўся-ж я... Ну вот... чаго плакаць?
**Маланка:** Добры дзень, дзядзька Раман!
**Раман:** Здарова, суседка.
**Васіль:** Добры вечар...

Раман не адказаў.

**Маланка** (ськеміла): Юля, дык мы пойдзем. Ты ня прыйдзеш на вечар?

Маланка й Васіль выходзяць.

**Раман:** А гэты — чаго тут аціраецца?
**Юля:** Ды ён проста... Сяньня вечар у клюбе, дык ён зайшоў. Разам з Маланкай зайшоў.
**Раман:** Не забывай, дачка, што яго бацька мяне ў турму пасадзіў... Каб яго нагі ў маім доме ня было.

Паўза.

**Юля:** Ты, можа, прагаладаўся, тата?
**Раман:** Прагаладаўся.
**Юля:** Дык я зараз... (Замітусілася, засьпяшалася сабраць на стол.)
**Раман** (мыючы рукі): Ну, як ты тут безь мяне? Спраўлялася?
**Юля:** Я-ж не маленькая ўжо...
**Раман:** Та-ак... вырасла... У калгасе робіш?
**Юля:** У калгасе. Мы з Маланкай зьвеньнявыя па лёну.
**Раман:** Сена карове на зіму ёсьць трохі?
**Юля:** Вазы тры. Малавата.
**Раман:** І то добра.
**Юля:** Мы з Маланкай на лёне зарабілі па шэсьць тысяч.
**Раман:** Што?
**Юля:** Па шэсьць тысяч зарабілі на лёне.
**Раман** (сеў за стол): У цябе, можа, чарка самагонкі якой ці гарэлкі знойдзецца? У кустах сядзеў, пакуль сьцямнела... Прастыў трохі...
**Юля:** У кустах?
**Раман:** Не хацеў на людзі паказвацца... Бачыш — шчацінай зарос.

Юля знаходзіць паўлітра, ставіць на стол.

Сядай і ты.

# Палітыка літаратурных уплываў

Вывучэньне ўплываў на беларускую літаратуру, да якога заклікае савецкае літаратуразнаўства на Беларусі, упаасобку «Літаратура і Мастацтва» і «Полымя», — рэч, зразумела, цікавая й карысная, хоць і не такая надзвычайная: справа ўплываў — гэта, можна сказаць, зусім нармальная зьява ў кажным літаратурным працэсе, аднак не такая лёгкая й простая, як яна здаецца на першы пагляд. Як-бы там ні было, зацікаўленьне савецкага літаратуразнаўства ўплывамі ў беларускай літаратуры ня выклікала-б да сябе асаблівай увагі, калі-б яно было прадыктаванае толькі тэарэтычным мамэнтам. Але якраз уся бяда ў тым, што нічога чыста тэарэтычнага ў Савецкім Саюзе няма — няма ў тым ліку й чыста тэарэтычнага літаратуразнаўства: яно, як і сама літаратура, пастаўлена на службу палітыкі.

Якую-ж палітычную мэту мае савецкае літаратуразнаўства Беларусі, калі яно зноў, і цяпер зь вялікім націскам, заклікае літаратуразнаўцаў вывучаць пытаньне ўплываў у беларускай літаратуры? Чаму гэтая ня новая сама па сабе праблема мае заўсёды актуальнае значэньне для савецкай ідэялёгіі?

Глыбейшы адказ на гэтыя пытаньні мы знойдзем у самога «заснавальніка сацыялістычнага» рэалізму — Максіма Горкага. Пры гэтым трэба адразу-ж засьцерагчыся: праблема літаратурных уплываў або літаратурнага ўзаемадзеяньня, у тэй форме, у якой яна падносіцца савецкім літаратуразнаўствам, знаходзіць сабе месца бадай вылучна толькі ў гэтак званых нацыянальных літаратурах: там найчасьцей гутарка ідзе аб уплывах расейскай літаратуры, як найбольш прагрэсыўнай, рэвалюцыйнай літаратуры. Больш таго, уплыў расейскай літаратуры на нацыянальную літаратуру разглядаецца як дадатная зьява, а насьледаваньне ёй — як рэч пажаданая. Максім Горкі, гэты «настаўнік братніх літаратур народаў СССР», разглядае працэс узаемадзеяньня (уплываў) літаратур, які хутчэй прывядзе да **«адзінай сацыялістычнай культуры»,** тэй культуры, якая **«абновіць увесь сьвет»** і якую ён называе «грознай» культурай. Інакш кажучы, забясьпечаньне **працэсу зьліцьця** нацыянальных літаратураў у вадзіную «сацыялістычную літаратуру» — гэта галоўнае заданьне савецкай літаратурнай палітыкі. Гэтая палітыка разьлічаная на сьціраньне самабытных асаблівасьцяў нацыянальных літаратураў, у тым ліку і беларускай літаратуры. Адным із спосабаў вытручваньня самабытнасьці ў літаратуры і ёсьць шлях «літаратурнага ўзаемадзеяньня» або літаратурнага ўплыву, які гэтак дбайна распрацоўвае цяпер савецкае літаратуразнаўства на Беларусі. Гэтак Александровіч у газэце «Літаратура і Мастацтва» так кажа, што вывучэньне літаратурных уплываў і ўзаемадзеяньня — гэта «першачарговае заданьне беларускага літаратуразнаўства». Сам старшыня Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў Беларусі паэта Пятрусь Броўка ў сваёй прамове на чацьвертым зьезьдзе беларускіх пісьменьнікаў аўтарытэтна сьцьвярджае, што сваім ростам беларуская літаратура заўдзячвае жыватворчаму уплыву на яе расейскай літаратуры, а разьвіцьцё паасобных ейных талентаў — «вучобе» у братніх паэтаў і пісьменьнікаў. «Самым галоўным фактарам буйнага росту маладой беларускай савецкай літаратуры зьяўляецца вучоба маладых беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў у рэвалюцыйных рускіх паэтаў і пісьменьнікаў: у Максіма Горкага, Дзям'яна Беднага, Уладзіміра Маякоўскага». Старшыня ССПБ Броўка навет уважае, што ўжо той працэс зьліцьця ў вадзіную сацыялістычную літаратуру, аб якім мы казалі вышэй, адбыўся. Броўка параўновае беларускую савецкую літаратуру з бурным патокам, які «... уліўся ў магутнае рэчышча агульнасаюзнай савецкай літаратуры». І Броўка не далёка ад праўды — беларуская літаратура нагэтулькі зьлілася з агульнасаюзнай, што ад нацыянальнага ў ёй засталося вельмі мала. Палітыка літаратурных уплываў якраз і разьлічаная на адміраньне нацыянальнага ў літаратуры. Чым больш «уплываў», тым меншы нацыянальны эквівалент літаратуры.

Працэсу адміраньня нацыянальнага ў беларускай літаратуры спрыяюць як найлепш і пераклады, першым чынам ў расейскую мову, як вядучую мову. (Да рэчы, што азначае сабою паняцьце «вядучае», Ня можа-ж расейская літаратура весьці, напрыклад, беларускую, калі тая ня будзе магчы йсьці сама. Абсурд!). Што да перакладаў, дык яны сталіся ўжо сацыялістычнай хваробай. Паэта А. Вялюгін у сваім выступленьні на прыгаданым чацьвертым зьезьдзе пісьменьнікаў жаліўся, што **анталёгія беларускай паэзіі выйшла ў сямёх мовах толькі няма яе ў «арыгінале, у нас, у Менску»,** — відаць і яна ўлілася ў «вадзіную сацыялістычную культуру».

Гэткія сумныя факты палітыкі «ўзаемадзеяньня літаратураў» і літаратурных уплываў.

**М. С.**

# Драматургічны канфлікт і „чорныя“ пісьменьнікі

Ня ўпяршыню ў Савецкім Саюзе літаратурная крытыка ўзьнімае пытаньне канфліктнасьці ў творах мастацкай літаратуры — з году ў год высоўваецца гэтая праблема, дыскутуецца як крытыкамі, гэтак і пісьменьнікамі — на сходах і ў друку, але канфліктных твораў як ня было, так і няма. Заміж цікавых, запраўды мастацкіх твораў чытачу даюць шэрую, нудную, аднастайную літаратурную прадукцыю. На такую «якасьць» мастацкіх твораў савецкай літаратуры жаляцца ня толькі звычайныя чытачы, але й афіцыйныя асобы, партыйныя кіраўнікі ад літаратуры, крытыкі і навет самыя творцы мастацкага слова.

Не пасьпее зьявіцца новы раман, п'еса, аповесьць, як у адрыс іхных аўтараў чуюцца дакоры ў нясюжэтнасьці, «рыхласьці» і ўсё ў тэй-жа бесканфліктнасьці. Асабліва войстра праблема канфліктнасьці стаіць, галоўным чынам, перад драматургіяй. Сакратар ЦК КПБ Мазураў, і той у сваёй прамове на IV-ім зьезьдзе беларускіх пісьменьнікаў патрабаваў «хвалюючай, канфліктнай літаратуры». А літаратуравед Юрэвіч, гаворачы аб творах, якія адлюстроўваюць сучаснасьць, знаходзіць у іх «недаравальную пустату», «зьнешняе падабенства» сучаснасьці, «матарыял» і ня бачыць у іх «вызначальнай у мастацкай творчасьці праблемнасьці».

Чаму гэта так? Няўжо на беларускай зямлі зьвяліся таленты? Якраз не! Справа ня ў талентах, а ў іншым! Палітычная рэглямэнтацыя ў савецкай літаратуры й мастацтве, сацыялістычны рэалізм, як творчы мэтад — рэчы насумяшчальныя і сябе ўзаемна выключаюць. Сацыялістычная эпоха ня можа адлюстравацца ў савецкім творы канфліктна — інакш гэта быў-бы не савецкі, а «конррэвалюцыйны» твор. І таму, у існасьці, савецкая літаратурная палітыка бымагае ад савецкага пісьменьніка **немагчымага.** Так і застаецца ён у сацыялістычным рэалізьме, як у зачараваным коле, шукаючы, але не знаходзячы сабе выйсьця. Калі-ж пісьменьніку часамі, і ўдаецца выйсьці з гэтага зачараванага кола й стварыць канфліктны твор, што бывае вельмі рэдка, — мы маем перад сабою зьяву, якая стаіць вонках сацыялістычнага рэалізму. Пра мэтад такога пісьменьніка кажуць, што ён карыстаўся «выключна чорнымі хварбамі пры адлюстраваньні рэчаіснасьці», а самога яго, такім парадкам, можна было-б назваць «чорным» пісьменьнікам, які мусіць каяцца за свае «грахі» і прызнаваць сваю «віну» у адыходзе ад устаноўленага партыяй правіла. Да ліку такіх «чорных» пісьменьнікаў на сягоньняшні дзень належаць, між іншага празаік Аляксей Кулакоўскі і малады драматург Андрэй Макаёнак. Апошні якраз і сказаў, што «без драматургічнага канфлікту, як асновы п'есы, нельга стварыць мастацкага твору». Ён слушна цьвердзіць, што «для таго, каб паказаць у п'есе станоўчага героя, трэба паказаць і тыя адмоўныя зьявы ў жыцьці, зь якімі герой змагаецца, інакш запраўды цікавай, войстрай п'есы не атрымаецца». Але-ж тады абвінавацяць у «адлюстраваньні калгаснага сяла чорнымі хварбамі», як абвінавацілі Кулакоўскага за аповесьць **«Дабрасельцы»,** а самога Макаёнка — за п'есу **«Каб людзі не журыліся»!** Пра апошняга Мазураў сказаў: «Кажуць, што таварыш Макаёнак нэрвова ўспрыняў крытыку яго п'есы. Нас непакоіць ня столькі тое, што некаторыя паасобныя пісьменьнікі робяць памылкі, а тое, што яны няправільна разумеюць нас».

Вось вам і не драматургія, а запраўдны канфлікт — трагедыя савецкага пісьменьніка. Паспрабуй, калі ты запраўдны мастак, абыйсьціся безь яго! З канфліктам — заробіш чорную няўдзячнасьць, без канфлікту — ня пісьменьнік.

**С. М.**

# Спробы вінаградніцтва ў Беларусі

На паўдзённы-ўсход ад старажытнага Мозыру раськінулася Хойніцка-Брагінскае ўзвышша, абкружанае нізінамі. Гэтае павышэньне ў самым кутку Палесься зусім розьніцца ад навакольнага балотнага ляндшафту. Тут на марэнных суглінках, якія часта пераходзяць у пяскі знаходзяцца багатыя падзолістыя глебы. Гэтае павышэньне ня вельмі вялікае, бо найвышэйшыя ўзгоркі ляжаць толькі на 160 м. над узроўнем мора.

Хойніцка-Брагінская града часта называецца, з гледзішча на сваю ўрадлівасьць, другой Случчынай. Гэтая частка Палесься мае мяккую й лёгкую зіму ды самае цёплае й працяглае на Беларусі лета. З прычыны спрыяльных кліматычных і глебавых умоваў тут добра родзяць збожавыя й тэхнічныя культуры. Прабавалі садзіць тут цукровыя буракі. Досьледы паказалі, што апрача высокай урадлівасьці, буракі мелі высокую ступень цукровасьці. Аднак будаўніцтва цукровага заводу было адкладзена, бо града гэтая ня можа поўнасьцяй забясьпечыць сыравінай сучаснага буйнага цукровага заводу.

На градзе ў шматлікіх садох дасьпявае шмат гатунковых яблыкаў і грушаў. Тут-жа вядзецца цікавая праца над акліматызацыяй абрыкосаў і вінаграду.

Яшчэ ў 1946 годзе ў садзе калгасу «Надзея» былі засаджаны абрыкосы, якія нядрэнна прыжыліся й даюць плады. У гэтым-жа калгасе ў 1915 годзе было пасаджана 1200 штук сямі гатункаў абрыкосавых дрэўцаў, якія таксама добра прыжыліся. Апрача абрыкосаў, вядзецца праца над вырошчваньнем вінаграду. Зь іншых паўдзённых культураў на Хойніцка-Брагінскай градзе прывіліся й добра родзяць кавуны. Паасобныя экзэмпляры кавуноў дасягаюць да 18 кілеграмаў вагою.

Дзеля правядзеньня досьледаў і акліматызацыі абрыкосаў, лімонаў, інжыру й хумры ў раённым цэнтры Хойнікі існуе адумысловы зямельны досьледны ўчастак, дзе вядуцца досьледы.

На захад ад Хойніцка-Брагінскага ўзвышша, на другім баку Палесься, у Пружанскім раёне, існуе вінаградны саўгас «Пружаны». Ён быў зарганізаваны ў 1946 годзе на землях былога маёнтку. Параўнальна зь іншымі саўгасамі — гэта малая гаспадарка, што займае толькі 392 гэктары. У 1955 г. пад вінаграднікам было 2,9 гэктараў, які было заплянавана збольшыць да 20 гэктараў. У тым-жа 1955 годзе паасобныя кусты вінаградніку далі па 17—18 кілеграмаў вінаграду. Аднак запраўднае прызначэньне пружанскай вінаграднай гаспадаркі — вырошчваць пасадачны матар'ял. Штогоду тут падрыхтоўваецца да 50 тысячаў саджанцаў. Тысячы вінаградных кустоў прывілося й даюць ужо ўраджаі ў розных мясцовасьцях пераважна на Палесьсі.

Пружанскі вінаграднік знаходзіцца над поймай ракі Мухавец, што ўпадае ў Буг. Вучастак гэты мае невялікі сьхіл на поўдзень; з халоднага паўночнага боку плянтацыю прыкрываюць вялізэзныя дубы, клёны, каштаны.

Блізкія грунтовыя воды Палесься часта шкодзяць вінаградным плянтацыям, бо вада паніжае тэмпэратуру глебы. А вінаград якраз любіць цяплыню. З гэтае прычыны ў Пружанах культывуюцца такія сарты вінаграду, якія маюць няглыбокую каранёвую сыстэму. Найлепш прывіліся вінаградныя сарты прывезеныя з далёкага ўсходу. Зь мясцовых сартоў добра прыжываюць «берасьцейскі чырвоны» й «кобрынські», якія разводзяцца аматарамі-садаводамі на Палесьсі.

Апошнімі часамі ў саўгасе «Пружаны» вырошчваецца да сарака сартоў вінаграду. У 1955 г. саўгас вырасьціў 40 тысяч саджанцаў аднагодак і перадаў калгасам звыш 4 тысяч двухгадовых саджанцаў. Такім чынам пружанская вінаградная гаспадарка зьяўляецца цэнтрам распаўсюджваньня вінаграду ў паўдзённых раёнах Беларусі. Плянтацыі вінаграду ўжо ёсьць ў Берасьцейскім, Шэрахоўскім, Жабінскім і, як вышэй было адзначана, у Брагінскім і Хойніцкім раёнах. Апрача гэтага саджанцы вінаграду вырошчваюцца ў саўгасе «Добрая воля» Пінскага раёну і «Усялюб'е» Клецкага раёну.

У дасьледных установах вядуцца цяпер доследы над агратэхнікай вінаградніцтва ў кліматычных і глебавых умовах паўдзённых раёнаў Беларусі.

(Паводля матар'ялаў з кніжкі І. Лупіновіча й А. Шкляра: «Па Беларускім Палесьсі».)



Юля прысела каля стала. Раман налівае сабе шклянку й Юлі.

**Юля:** Тата, гэта мне многа...
**Раман:** Пі, дачка! Ну, будзь здарова! (Выпівае.)
**Юля:** На здароўе. (Таксама п'е.)
**Раман:** Пі ўсё — ты ўжо не маленькая.

Паўза.

Колька ў больніцы памёр?
**Юля:** У больніцы.
**Раман:** Ты была там?
**Юля:** Была.
**Раман:** Ну?
**Юля:** Дыфтэрыт у яго быў... Ну й ня вытрымаў... Дактары нічога не маглі зрабіць...
**Раман:** А талковы хлопец рос... (Ізноў налівае й п'е.)
**Юля:** Цётка Аксіньня напераменку дзяжурыла каля Колькі.
**Раман:** Аксіньня?
**Юля:** Калі Колька памёр, яна плакала, як па сваім.

Стук у дзьверы.

**Раман:** Каго там нясе?

Адчыняюцца дзьверы, заходзіць Самасееў. Ён ужо крыху падвыпіў.

**Самасееў:** Здароў, друг! Вярнуўся? Прыйшоў?
**Раман** (вітаецца): Вярнуўся.
**Самасееў:** Та-ак, змарнеў ты, брат, там.
**Раман:** Не на курортах быў.
**Самасееў:** Нялёгка, відаць, там, нясоладка?
**Раман:** Пабывай, даведаешся. Туды запісацца няцяжка.. Магу даць адрас.
**Самасееў:** Не давядзі Гасподзь.
**Раман:** То-та-ж.
**Самасееў** (глянуўшы на паўпустую бутэльку на стале): Ну, Раман, давай вып'ем за тое, каб нашы ворагі пабывалі там. (Вымае зь кішэні паўлітра.)
**Раман:** Юля! Падай-тка яшчэ чаго на стол.

Юля выходзіць.

А ты у калгасе застаўся?
**Самасееў:** Застаўся. (Уздыхнуў.)
**Раман:** На пасадзе якой ці радавым?
**Самасееў:** Радавым.
**Раман:** Ну й дурань, што застаўся.
**Самасееў:** Я-б не застаўся, ды... (Налівае ў шклянку гарэлку.) Гад гэты Кавальчук... Адно з двух, кажа, выбірай: ці пад суд, ці ўласным мазалём адрабі за ўсё, што тут натварыў.
**Раман** (сьмяецца): А-а, правільна.
**Самасееў:** Што правільна? А што я тут натварыў?
**Раман:** Сам ведаеш. І розныя Гудзеевы табе не памаглі.

Юля прыносіць і ставіць на стол закуску. Уключае сьвятло.

**Самасееў:** Адвярнуліся ад мяне начальнікі. Цяпер Кавальчук у пашане. Зь першым сакратаром падружыўся. А ты-ж сам ведаеш: калі першы да яго, дык і другія таксама.
**Юля:** Чаго там! Гудзееў і цяпер найлепшы друг ваш.
**Самасееў:** Таму што сумленны чалавек!
**Раман:** Сволач ён!
**Самасееў** (пасьля паўзы): А такія добрыя былі...
**Раман** (усьміхаючыся): Юлька! Падай цыбуліну...

Самасееў наліў яшчэ, чокнуўся й выпіў.

**Юля** (ласкава): Тата, можа хопіць табе? Ня трэба болей піць.
**Раман:** Ня бойся, дачка, не ап'янею.
**Самасееў:** Пі, Раман, усё роўна нам з табой прападаць, пакуль Кавальчук тут. Цяпер ён на кані. Зь першым сакратаром райкома ў дружбе.
**Раман:** А цябе, відаць, прыцiснулі тут.
**Самасееў:** Прыцiснулі... Ну, нічога... Я яшчэ не паддамся! Не з такой пароды Самасееў! Я яго, брат... Я яшчэ яму пакажу зубы. Падпільную. Не ўдалося адзін раз, на другім пападзецца. Ну, а калі пападзецца мне ў рукі, я яго накармлю салёным! Я яго кажны крок на паперачку, я яго кажнае слова на паперачку...
**Юля:** А паперачка чыстая. Таму што Кавальчук сумленны, не махляр, не хапуга й да людзей справядлівы.
**Самасееў:** Справядлівы? А да бацькі твайго справядлівы? А? У турму засадзіў? Чуеш, Раман? «Справядлівы»!

Юля выйшла у другі пакой.

**Самасееў:** Выходзіць — я быў несправядлівы.
**Раман:** Ды й ты быў добрая цацка. І к табе без паўлітра было ня прыступіцца. Няма чаго хваліцца.
**Самасееў:** Выходзіць, і табе я не дагадзіў? А? А вось у турму цябе не я паслаў, а ён, справядлівы. Што? Такі-сякі, а нікога не паслаў у турму. А гэты, хвалены, паказаў табе, па чым фунт ліха. Што, ня так? Ну хай яна, яна зьнюхалася з сынам яго. А ты? Цяпер табе кажны ў вочы пароць будзе — сядзеў, асуджаны, арыштан! А скажы — дзе твой сын? Дзе ён? Хто вінаваты? Каб сам дома быў — можа, і сын уцалеў-бы. Сям'ю раськідаў. Сына твайго ў дамавіну загнаў, а дачку на свой бок перацягнуў.
**Раман:** А ну, замаўчы!.. (Устаў, наблізіўся да Самасеева.) Ты ня трывож балючае месца!
**Самасееў:** А-а, баліць! А хто вінаваты? Я-б яму за сына чарапок параламаў-бы.
**Раман:** Маўчы!!!
**Юля** (выбягае з другога пакою): А ты на што яго падбіваеш? А? Вон! Выйдзі вон!
**Самасееў:** За сьвёкра заступаешся?
**Раман:** Юля!
**Юля:** Ідзіце вон!
**Раман:** Ідзі, Самасееў!
**Самасееў:** Добра, пайду.

Самасееў выходзіць. На парозе ён сутыкаецца з Маланкай і Аксіньняй.

**Аксіньня** (нібы ня верачы вачам): Прыйшоў...
**Раман:** Вярнуўся. Ну, здарова, Аксіньня.

Раман працягнуў Аксіньні руку, яна схапіла яе, трасе. Аднак прысутнасьць дзяцей, відаць, перашкодзіла выяўленьню іх запраўдных пачуцьцяў. Маланка здагадалася.

**Маланка:** Ну, Юля, ты сабралася? Хадзем!
**Юля** (нібы просячы прабачэньня ў бацькі): Тата! Мы пойдзем...
**Раман** (не адводзячы вачэй ад Аксіньні): Ідзеце.

Як толькі дзяўчаты выйшлі за дзьверы, Аксіньня абхапіла Рамана за шыю.

**Аксіньня:** Вярнуўся! Прыйшоў! Дачакалася! Ух ты, нядобры ты... (Цалуе яго.)

# Аб нявыкарыстанай сыравіне

Ужо ня раз на бачынах «Бацькаўшчыны» закраналася тэма аб невыкарыстаньні зусім або толькі частковым выкарыстаньні ў БССР тае ці іншае мінэральнае ці немінэральнае сыравіны. Прыкладам, як добра ўсім ведама, каноплі, лён, гародніна, лекавыя расьліны, скура і інш. у вельмі й вельмі значнай прапорцыі вывозяцца паза межы БССР у неапрацаваным ці поўхвабрыкатным выглядзе; фасфаты, крэйда, граніты амаль не экспляіуюцца; соль намечана эксплятаваць у бліжэйшай сямігодцы; цалкам занядбоўваецца выкарыстаньне шматлікіх мінэральных крыніцаў і гэтак далей, і г. п. Наўмысьля не выкарыстоўваючы мясцовых рэсурсаў для разьвіцьця адпаведных галінаў прамысловасьці на сваёй тэрыторыі, БССР ставіцца ў залежнасьць ад прывазное сыравіны, разбудоўваючы буйную машынабудаўнічую, сталяліцейную і інш. галіны прамысловасьці.

На падобны стан вядзеньня гаспадаркі напрошваецца, на маю думку, лягічны высноў — у складзе СССР, БССР застаецца аграрна-поўхвабрыкатным прыдаткам цэнтральных прамысловых часткаў Расеі, сучаснаму кіраўніцтву таму ня ў пляне разбудоўваць прамысловасьць на мясцовай сыравіне.

«Забытая» сыравіна, аб якой я хачу ўспомніць сяньня — гэта сапрапэлі й сапраколі. Сапрапэлі гэта вазёрныя асадкі, утвораныя галоўным чынам астаткамі жывёлаў і расьлінаў із невялікай дамешкай неарганічных рэчываў. Сапраколі гэта асадкавыя пароды падобныя па складу да сапрапэляў, але ўтвораныя ў балотах. Асноўнымі складнікамі сапрапэляў і сапраколяў ёсьць вуглярод, вадарод, кісларод, меней азот і зусім мала серкі. Як бачым, складнікі вельмі падобныя да складнікаў нафты і, як можна было дапусьціць, гэтая сыравіна павінна была-б адыграваць важнае значаньне ў шматлікіх галінах прамысловасьці, як хімічнай — вытворчасьць дзёгцю, воску, сьпіртаў, угнаеньняў; у лячыльна-курортнай і сельскай гаспадарцы ды як паліўная сыравіна.

Даўно ведама, што асабліва спрыяльнымі для ўтварэньня сапрапэляў і сапраколяў зьяўляюцца лясныя зоны марэнных ляндшафтаў. Менавіта Беларусь зьяўляецца такой тэрыторыяй.

Пошукі сапрапэляў і сапраколяў на Беларусі пачаліся у 20-ых гадох спэцыяльнымі сапрапэлявымі экспэдыцыямі Белгеолразьведкі. Ужо ў хуткім часе выявілася, што Беларусь асабліва поўнач — раёны Полацкі, Асьвейскі, Лепельскі, Дрысенскі, Аршанскі, Віцебскі, Гарадоцкі, Чашніцкі, Сіроценскі, Асінаўскі асабліва багатыя сапрапэлямі. Арыентацыйныя запасы сапрапэляў толькі ў паўночнай Беларусі аблічваліся ў 1936 годзе ў 800 міл. тонаў із 174 месцанараджэньняў. Іншыя часткі Беларусі — Палесьсе, заходнія акругі, беларускія акругі далучаныя да РСФСР — ня былі або толькі часткова дасьледваныя, хоць ведама, што сапрапэлі распаўседжаныя й там. Прыкладам, возера Селігер — самая паўночна-ўсходняя частка этнаграфічнае Беларусі — адно з найбуйнейшых месцанараджэньняў сапрапэляў у РСФСР. Такім чынам запасы сапрапэляў на усёй Беларусі будуць значна большыя. Пры гэтым, як заўважылі шматлікія дасьледнікі, беларускія сапрапэлі маюць вельмі вялікую вартасьць.

Лічу, што варта тут прывесьці разьлікі што да колькасьці прадуктаў, якія было-б магчыма атрымаць із сапрапэляў толькі з аднаго возера Сьвятога. Запасы сапрапэлявага торфу на гэтым возеры — 380 тыс. куб. мэтраў. Запасы сапрапэляў пад ім — 2 400 тыс. куб. мэтраў або 270 000 тонаў паветрана-сухіх сапрапэляў. Прамысловае прадпрыемства каля возера на працягу 20-х гадоў з гэтае сыравіны дало-б: 1 000 тонаў мэтылёвага сьпірту, 120 тыс. тонаў коксу, 5 000 тонаў фэнолю й парафіну, 500 тонаў ацэтону. Выгада падобнай установкі відавочная, а гэтае возера яшчэ не найбагацейшае на сапрапэлі — сустракаюцца ў нас групы вазёраў, у якіх запасы сухое масы сапрапэляў дасягаюць 1 445 тыс. тонаў. Сапрапэлі паўночнае Беларусі могуць даваць 25-30% дзёгцю, тады як у Зах. Эўропе пры атрыманьні 7% дзёгцю працэс ужо лічыцца рэнтабільным. Зусім відавочна, якую-б мы маглі мець карысьць з сапрапэляў.

Ня меншую карысьць маглі-б даць сапрапэлі і ў мэдыцыне — сапрапэльныя й балотныя ванны. У сельскай гаспадарцы сапрапэлі ўжываюцца для ўгнаеньня й падкормкі жывёлы. Досьледы паказалі, што ад унясеньня ў глебу сапрапэляў ураджай аўса можа павялічыцца больш як на 40%; ураджай бульбы павялічваецца на 45,5%.

Менск у гадох 30-39 стаўся важным цэнтрам у СССР у вывучэньні сапрапэляў. Над вывучэньнем іх працавалі Акадэмія Навукаў БССР і Інстытут Прамысловасьці БССР.

Аднак, на вялікі жаль, гэта быў толькі пачатак, якому ня суджана было разьвіцца, усякае вывучэньне сапрапэляў спынілася. Тэматыка навуковых працаў беларускіх дасьледных установаў зьмянілася — больш дасьледуюцца тэмы, якія тычацца агульна савецкіх праблемаў выкарыстаньня сыравіны, а на беларускія не зьвяртаецца ўвагі.

У публікацыях навуковых, публіцыстычных, папулярна-навуковых, прапагандовых сыстэматычна нічога не ўспамінаецца ні аб сапрапэлях, ні аб сапраколях. У артыкулах «Зьвязды» за подпісамі галоўнага геалёга БССР, міністра аховы здроўя БССР гэтак сама няма нічога аб сапрапэлях, і, выглядае, гэтая сыравіна будзе яшчэ доўга ляжаць нявыкарыстанай.

**В. Зубкоўскі**

## Парад ляяльнасьці ў Нью Ёрку

25 красавіка ў Нью-Ёрку адбыўся дванаццаты парад ляяльнасьці, які штагоду наладжваецца тут у найбліжэйшую сыботу перад першамайскім сьвятам, каб супрацьдзеіць камуністычнаму выкарыстоўваньню гэтага сьвята працоўных у мэтах свае крыклівае прамаскоўскае прапаганды. У парадзе ўзялі ўдзел выдатныя прадстаўнікі амэрыканскага грамадзтва на чале з губэрнатарам ньюёркаўскага штату Н. Рокэфэлэрам, мэрам места Нью-Ёрку Р. Вагнэрам, кардыналам Ф. Спэлмэнам і інш., 7 тысячаў дэманстрантаў (войска, цывільная ўлада, школьніцтва, нацыянальнасьці) ды каля сту тысяч гледачоў.



**Чало беларускае калёны (вядзе сп. Д. Клінцэвіч) на парадзе ляяльнасьці ў Нью-Ёрку 26 красавіка 1959 году. Фота Язэпа Пазьняка**

Беларуская калёна сёлета была даволі лічная — шмат хто ў нацыянальнай вопратцы — і грунтоўна розьнілася ад калёнаў папярэдніх гадоў тым, што сёлета, адкінуўшы набок свае палітычныя разыходжаньні, усе Беларусы пайшлі **разам.** Вельмі суцяшальны факт! Ці ня ён якраз і ўплынуў на тое, што ўвечары таго-ж дня тэлевізійная станцыя CBS у сваім рэпартажы з параду падала таксама й беларускую калёну, а ў вячорных навінах (а 6-й гадз.) радыястанцыя «Нью-Ёрк Таймсу» (WQXR) падала ўкраінскую й беларускую групы, як найлічнейшыя сярод нацыянальных прадстаўніцтваў. Газэта «Нью-Ёрк Таймс», паведамляючы назаўтра пра парад ляяльнасьці, пісала, што на сёлетнім парадзе адчуваўся «моцны антыкамуністычны тон». Між іншага, у газэце быў спомнены й адзін зь беларускіх транспарэнтаў: «Далоў расейскі каляніялізм!»

Зь беларускіх арганізацыяў на парадзе ляяльнасьці былі рэпрэзэнтаваныя наступныя: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў Амэрыцы (БАЗА), Беларускі Кангрэсавы Камітэт, Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў, Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы, Саюз Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, Беларуская жаноцкая арганізацыя, Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы Камітэт.

На трыбуне, дзе прадстаўнікі ўлады прыймалі парад, сярод запрошаных гасьцей быў Яго Высокапрэасьвяшчэнства Ўладыка Васіль.

Беларускую калёну вёў сябра галоўнае ўправы ЗБВ сп. Д. Клінцэвіч.

Арганізацыйныя й рэпрэзэнтацыйныя справы, зьвязаныя з парадам ляяльнасьці, энэргічна й удала кіраваў старшыня ньюёркаўскага аддзелу БАЗА сп. Я. Пазьняк. Сп. Я. Пазьняк быў таксама гасьцём ад Беларусаў на ўрачыстай бясёдзе ў гатэлі Астор, якой пачынаюцца ўрачыстасьці, зьвязаныя з парадам ляяльнасьці.

**Я. Запруднік**

# Даклад праф. Адамовіча

Інстытут Этнічных Студыяў пры Джорджтаўнскім ўнівэрсытэце ў Вашынгтоне 24 і 25 красавіка сёлета правёў сваю другую гадавую канфэрэнцыю на тэму «нацыянальнае самавызначэньне: дасягненьні й няўдачы». Праграма канфэрэнцыі складалася зь дзесяцёх рэфэратаў пра розныя аспэкты гэтае вялікае праблемы ды дыскусіяў над імі. Удзельнікамі канфэрэнцыі былі выдатныя дасьледнікі справы нацыянальнага самавызначэньня, прадстаўнікі розных нацыянальнасьцяў (францускае, амэрыканскае, брытанскае, карэйскае й інш.) і розных навуковых цэнтраў ды палітычных прадстаўніцтваў. Як і летась, на канфэрэнцыю быў запрошаны дзейны старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, сябра Асамблеі Інстытуту Вывучэньня СССР і сябра таго-ж Інстытуту Этнічных Студыяў праф. Ант. Адамовіч з рэфэратам «Нацыянальнае самавызначэньне па першай сусьветнай вайне на апанаваных Саветамі тэрыторыях».

Свой рэфэрат праф. Ант. Адамовіч прачытаў у сыботу на папаўдзённай сэсіі, пасьля ўступнога рэфэрату д-ра О. Галецкага (ад Калюмбійскага й Фордгамскага ўнівэрсытэтаў у Нью-Ёрку) «Ідэя нацыянальнага самавызначэньня ў сучаснай гісторыі» і рэфэрату д-ра А. Спэке (былога прафэсара Рыскага ўнівэрсытэту) «Дазнаньні самавызначэньня латыскага народу, 1860—1959 гг.».

Пераказваем тут асноўны зьмест рэфэрату праф. Ант. Адамовіча.

Пасьля рэвалюцыі ў Расеі, у 1917—18 гг., былі абвешчаныя новыя незалежныя дзяржавы на аснове права на нацыянальнае самавызначэньне. Саветы, так ці йнакш, прызнаючы гэтыя новыя дзяржавы, адразу-ж пачалі змаганьне супраць іхных дэмакратычных рэжымаў ды на месцы іх пачалі ствараць савецкія рэспублікі, абвяшчаючы іх таксама незалежнымі. У 1920—21 гадох яны ўрэшце дасягнулі свае мэты на Беларусі, Украіне, у Азэрбайджане, Арменіі й Грузіі. Аднак, створаныя там савецкія рэспублікі ў запраўднасьці ніколі ня былі незалежнымі, бо ім не дазволілі на свае собскія камуністычныя партыі, а падпарадкавалі аднэй цэнтралізаванай Расейскай (пазьней «усесаюзнай») Камуністычнай партыі. Дзеля гэтага й іхная дзяржаўная незалежнасьць сталася фікцыяй, якая служыла толькі для ўзбуджэньня ірэдэнтыстычных і сэпаратыстычных рухаў у некамуністычных краёў ды нэўтралізаваньня нацыяналістычных рухаў у самых савецкіх рэспубліках. Тым ня менш, гэткая палітыка была небясьпечнай, паколькі кажная фікцыя, што падаецца за факт, мае нахіл ставацца фактам. Задзіночаньнем рэспублікаў пад выглядам фэдэрацыі й палітыкай нацыянальнае асыміляцыі забясьпечвалася адхіленьне распаду цэнтралізаванае савецкае дзяржавы. Лёзунг «нацыянальнага самавызначэньня аж да адлучэньня», прапагаваны бальшавікамі ў часе рэвалюцыі й пасьля яе, быў падменены палітыкай нацыянальнага ўлучэньня аж да зьліцьця, інтэграцыі аж да асыміляцыі. Аднак, якой фікцыйнай савецкая «незалежнасьць» ні была-б, яна ў народаў савецкіх рэспублікаў узгадоўвае прынамся адчуваньне свае нацыянальнае апрычонасьці, што разгорнецца ў поўнае нацыянальнае самавызначэньне, як толькі прыйдзе свабода.

Усе ўдзельнікі дыскусіі над дакладам праф. Ант. Адамовіча поўнасьцяй пагаджаліся з выказанымі паглядамі й ідэямі, дапаўняючы яго прыкладамі й аналёгіямі.

Двухдзённая канфэрэнцыя «Нацыянальнае самавызначэньне: дасягненьні й няўдачы» прайшла на высокім акадэмічным узроўні й дала шмат цікавых матар'ялаў для далейшеге вывучэньня складанага й пякуча актуальнага пытаньня нацыянальнага самавызначэньня народаў.

Падсумоўваючы й зачыняючы сэрыю дакладаў, др. П. Лінэбэргер, дэкан Школы Паглыбленага Вывучэньня Міжнародных Праблемаў пры ўнівэрсытэце імя Джона Гопкінса, адзначыў на першым месцы даклад праф. Ант. Адамовіча.

**НАЙВЯЛІКШЫМ ТВАІМ ПРЫЯЦЕЛЯМ НА ЧУЖЫНЕ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ГАЗЭТА «БАЦЬКАЎШЧЫНА». ДЫК ПАДТРЫМАЙ ЯЕ, ЧЫМ МОЖАШ!**

---

**Раман** (расчуліўся): Ксюша! Ксюша! Чакала мяне? Думала?

**Аксіньня** (нарэшце адарвалася ад Рамана): Мора сьлёз выплакала.

**Раман** (выціраючы яе твар хусткай): А цяпер навошта плакаць? Ня трэба . . . Давай лепш вып'ем па чарцы. (Налівае ў шклянкі гарэлку.) Ну, Ксюша! . .

**Аксіньня** (бярэ шклянку): За тваё здароўе, арыштант ты мой нябрыты . . . (Выпіваюць.)

**Раман:** А дзяўчаты нашы скемілі . . .

**Аксіньня:** Усё яны ведаюць, Раманка. Нечага ад іх таіцца.

**Раман:** Ня будзем таіцца. Я цяпер зразумеў: шчасьце трэба чэрпаць поўнымі прыгоршчамі. Заўтра-ж пяройдзеш у маю хату.

**Аксіньня:** А можа, ты ў маю?

**Раман:** Мая лепшая. А гэты, старшыня, і цяпер у цябе жыве?

**Аксіньня:** Пасьля таго, як арыштавалі цябе, я сказала яму, каб выбіраўся. Я яму ўсё сказала. І пра цябе, і пра сябе. Што мужам ты быў і што праз яго другі раз аўдавела.

**Раман:** А я чаго толькі ні думаў . . .

**Аксіньня:** Ну?

**Раман:** Думаў, што ён мяне ў турму адправіў, каб потым з табой . . . ён-жа ўдавец . . .

**Аксіньня:** Ну й дурны-ж ты, Рома! Як ты мог пра мяне так думаць!

**Раман:** Праўда, дурны.

**Аксіньня:** І ён не такі чалавек. Хоць і строгі, а добры й справядлівы.

**Раман** (спахмурнеў): Ну, не хвалі мне яго. Я яго дабрату й справядлівасьць ведаю.

**Аксіньня:** Калі хварэў Колька, ён двойчы ў больніцу езьдзіў.

**Раман** (уздыхнуў): Я зь ім яшчэ зыйдуся на вузкай дарожцы. Я зь ім яшчэ пагавару.

**Аксіньня:** Ты, Рома, не нарабі глупства!

**Раман:** Ксюша! А Колька . . . ну, тады . . . у больніцы, пра мяне хоць успомніў? Пытаўся пра мяне?

**Аксіньня:** Успомніў.

**Раман:** Ну?

Аксіньня маўчыць.

Ну!

Аксіньня маўчыць.

Што ён сказаў?

**Аксіньня** (ніяк не асьмеліцца): Папытаў: «Ці праўда, што мой тата . . . злодзей?»

**Раман:** А ты што сказала?!

Аксіньня маўчыць.

А ты што сказала?! (Падняўся за сталом, аж скрыгануў зубамі. Адыйшоўся ад стала, пахіснуўся. Ён прыкметна ап'янеў.)

**Аксіньня:** Я сказала: няпраўда, твой бацька чэсны . . . Раман, ты ляж паляжы . . . Ты ап'янеў, слабы стаў . . . А я пайду на сходзе пабуду. Потым я прыйду да цябе. Там нашым дзяўчатам за лён прэміі даваць будуць. Іх першыя прэміі...

**Раман:** Ідзі . . .

**Аксіньня:** Потым прыйду.

**Раман:** Прыйдзі.

Аксіньня выйшла. Раман нейкі час стаіць хмуры, суровы, нібы на нешта адважваецца. Потым, паўтарыўшы словы сына: «А праўда, што мой тата злодзей?» — ён апранае ватоўку, тушыць лямпу й выходзіць з хаты.

ЗАСЛОНА

### ДРУГАЯ СЦЭНА

У глыбі сцэны прыгожы вячэрні краявід. Зорнае неба. На пярэднім пляне кусты й маладыя дрэўцы з залочаным лісьцем. Дарожкі пасыпаныя жоўтым пяском. Абапал дарожак — лавачкі. Недзе недалёка сьвецяцца вокны клюбу, адкуль чуюцца музыка, гоман моладзі. песьні. З клюбу выходзяць Васіль і Юля.

**Васіль:** Накінь мой пінжак, а то прастынеш пасьля танцаў. (Накі[illegible]ў ёй на плечы свой пінжак. Юля з удзячнасьцяй паглядзела яму ў твар, і яны ськіваваліся на алейку да лавачкі.) Ведаеш, Юля, як я называю гэту лавачку? Шчасьлівая . . . Здагадваешся?

**Юля:** Здагадваюся . . . Дзіўны ты . . .

**Васіль:** Сядзем?

**Юля** (уздыхнуўшы): Сядзем.

**Васіль:** А чаму ты так цяжка ўздыхаеш?

**Юля:** Лавачка шчасьлівая, а мы . . . не.

**Васіль:** Чаму?

**Юля** (уздыхнула): Бацька мой забараніў мне з табой . . . сустракацца . . .

**Васіль:** Чаму?

**Юля:** Не здагадваешся?

**Васіль:** Ну, ведаеш . . . Гэта ўжо ня іх справа. Яны могуць сварыцца, могуць мірыцца, а станавіцца паміж намі не дазволім! Я колькі перахварэў за тыя дні, калі ты са мной не хацела гаварыць, калі ты мяне ворагам сваім лічыла праз бацьку. А цяпер . . . Цяпер, калі мы адзін аднаго кахаем, —хто нам можа перашкодзіць? Ніхто! Ніколі!

**Юля:** Ніхто. Ніколі.

**Васіль:** Кахаеш? Скажы, Юля?

**Юля:** Вася, харошы мой, добры, шчыры! (Цалуе яго.)

**Васіль:** Я зь першага разу, як толькі ўбачыў цябе, сказаў сам сабе: вось мой лёс, вось мая мара, мая надзея, маё жыцьцё, маё шчасьце. Другога мне ня трэба, а гэта нікому ня ўступлю. Верыш?

**Юля:** Веру.

**Васіль:** Юля, а ты што сказала бацьку?

**Юля:** Нічога.

**Васіль:** Скажам. Хочаш? Сяньня-ж.

**Юля:** Сяньня не. Потым. Пасьля. Пачакаем. Сяньня бацька, ведаеш, які . . . Ён прыйшоў адтуль днём яшчэ, а да вечара сядзеў у кустах, не хацеў людзям на вочы паказвацца. Ты яшчэ ня ведаеш, які ён горды й самалюбівы. А тут — з турмы вярнуўся. І потым . . . сяньня ён вельмі п'яны . . . Бацьку твайму ён, баюся, ніколі не даруе.

Із службовага ходу клюбу выходзяць Гудзееў і Самасееў.

**Самасееў** (вельмі ўсхваляваны): Вы заўважылі, таварыш Гудзееў? Гэта-ж проста расправа за крытыку. Яны зводзяць асабістыя рахункі. Гэта Кавальчук спаганяе злосьць за тое, што я не маўчаў і выкрываў іх цёмныя махінацыі, як прынцыповы камуністы. Я прашу абараніць мяне ад расправы за крытыку.

**(Далей будзе)**

**ДА ЎВАГІ НАШЫХ ПРАДСТАЎНІКОЎ і ЎСЯГО БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗТВА!**

Выдавецтва «Бацькаўшчыны» зьніжае на 25% цану ўсіх сваіх выданьняў за вынятакм «Спадчыны» Я. Купалы ў цьвёрдай вокладцы, «Беларускіх казак» у цьвёрдай і мяккай вокладцы й «Выбраных твораў» Р. Крушыны. У выніку цана ўсіх выданьняў наступная:

**Янка Купала**
**СПАДЧЫНА**

— Выбар паэзіі зь вялікім крытычным артыкулам **Ст. Станкевіча.** Балонаў 564. **Цана 5.25, 9, або 11 амэр. даляраў** (залежна ад вокладкі й паперы).

**Янка Купала**
**ТУТЭЙШЫЯ**

— П'еса ў чатырох дзеях з крытычным артыкулам **Р. Склюта. Балонаў 83. Цана 1 амэр. даляр.**

**Янка Купала**
**РАСЬКІДАНАЕ ГНЯЗДО**

— **Драма** ў пяцёх актах з крытычным артыкулам **Р. Склюта.** Балонаў **58+XV. Цана 0.75 амэр. даляра.**

**Якуб Колас**
**НОВАЯ ЗЯМЛЯ**

— Паэма зь вялікім крытычным артыкулам **Р. Склюта.** Балонаў **246+XXXII. Цана 2.25 амэр. дал.**

**Якуб Колас**
**СЫМОН МУЗЫКА**

— Паэма з крытычным артыкулам **Р. Склюта** і **А. Бабарэкі.** Балонаў **238. Цана 2.25 амэр. даляраў.**

**Якуб Колас**
**У ПАЛЕСКАЙ ГЛУШЫ**

— **Повесьць. Цана 1.50 амэр. дал.**

**Андрэй Мрый.**
**ЗАПІСКІ САМСОНА САМАСУЯ**

— Сатырычная аповесьць з крытычным артыкулам **Р. Склюта.** Балонаў 88. **Цана 0.75 амэр. даляра.**

**Лукаш Калюга**
**НЯДОЛЯ ЗАБЛОЦКІХ**

— Аповесьць з крытычным артыкулам **Р. Склюта. Цана 1.10 амэр. даляраў.**

**Власт (Вацлаў Ластоўскі)**
**ТВОРЫ**

— Апавяданьні. Балонаў 112. **Цана 0.75 амэр. даляра.**

**Юрка Віцьбіч**
**ПЛЫВЕ З-ПАД СЬВЯТОЕ ГАРЫ НЁМАН**

— Мастацкія нарысы. **Цана 0.75 амэр. даляра.**

**Рыгор Крушына**
**ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ**

— Вершы. **Цана 2 амэр. даляры.**

**ЛЯ ЧУЖЫХ БЕРАГОЎ**

— Альманах твораў эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў з уступным артыкулам **Ст. Станкевіча.** Балонаў 238. **Цана 2. 25 амэр. даляраў.**

**БЕЛАРУСКІЯ КАЗКІ**

Зборнік народных казак і літаратурных твораў з казачнымі матывамі. Балонаў 215. **Цана 3 або 4 даляры** (залежна ад вокладкі).

**Заўвага:** У эўрапэйскіх краінах, пайменна ў Англіі, Францыі, Бэльгіі, Нямеччыне, Італіі, Гішпаніі, а таксама ў Аргэнтыне, Бразыліі й Аўстраліі выданьні каштуюць на 20% таней вышэй пададзенае расцэнкі

**Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

**УВАГА, БЕЛАРУСЫ МЭЛЬБУРНУ!**

Пры Згуртаваньні Беларусаў у Вікторыі зарганізавана беларуская бібліятэка, карыстацца якой запрашаюцца ўсе нашы суродзічы.

Адрас бібліятэкі:

1, Swift St., Northcote

## *Зь беларускага жыцьця*

### СХОД НЬЮ-ЁРКАЎСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА

26 красавіка ў залі БГЦ у Брукліне адбыўся сход нью-ёркаўскага аддзелу БАЗА, на якім былі абраныя 24 дэлегаты на 8-ы кангрэс БАЗА, што мае адбыцца ў Нью-Ёрку 30 і 31 травеня сёлета.

### АКАДЭМІЦКІ ДЫСКУСІЙНЫ ВЕЧАР

24-га красавіка ў Нью-Ёрку, у Мадзярскім Грамадзкім Цэнтры, «Petöfi Circle» ладзіў акадэміцкі дыскусійны вечар на тэму: «Будучыня Ўсходняе Эўропы, у сувязі з надыходзячымі палітычнымі падзеямі (Бэрлінскі крызіс, Канфэрэнцыя на вяршыне)». У вечары прынялі ўдзел: Альбанцы, Баўгары, Мадзяры, Чэхі, Румыны, Палякі. Беларускія студэнты (БААТ) на вечары былі прадстаўленыя др. В. Кіпелем і інж. В. Станкевічам. Прысутнічалі на вечары гэтаксама амэрыканскія й тыбэцкія прадстаўнікі.

**Ю. С.**

### У НАШАЙ МОЛАДЗІ Ў ЗША

Нью-ёркаўскі аддзел ЗБМА праводзіць рэгулярныя свае зборкі кажную пятніцу вечарам у памешканьні YWCA.

Перад сьвяткаваньнем 25 Сакавіка, аддзел запрасіў на зборку International Club. Падчас спатканьня вяліся розныя гульні ды быў наладжаны пачастунак. Заступнік кіраўніка аддзелу Вячаслаў Станкевіч коратка паінфармаваў прысутных гасьцей аб беларускім народзе ў ангельскай мове, заклікаючы адначасова прыбыць на акадэмію прысьвечаную 41-ым угодкам БНР, якую ладзіла акруговая ўправа БАЗА.

*

У пятніцу 17-га красавіка ў памешканьні Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Брукліне адбылася зборка Галоўнага кіраўніцтва Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы. На зборцы былі абмеркаваны наступныя справы: Парад Ляяльнасьці ў Нью Ёрку (заклік, каб уся беларуская моладзь ішла ў ваднэй калёне), ворган Згуртаваньня «Беларуская моладзь»; спартовая сустрэча беларускае моладзі (ЗБМА й СБ-АМ); 3-ы гадавы зьезд ЗБМА, які мае адбыцца 5, 6 й 7 верасьня сёлета.

*

Кіраўніцтва нью-ёркаўскага аддзелу ЗБМА сабралася 22 красавіка, каб абмеркаваць плян працы на летні сэзон і сьцяг аддзелу. Было таксама пастаноўлена адкрыць банкавае конта. Аддзел мае на сяньняшні дзень больш за 400 даляраў гатоўкі.

### УВАГА, БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ ЗША!

Зь ініцыятывы Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы й Саюзу Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў днях 4 і 5 ліпеня ў Саўт Рывэры, Н. Дж., адбудзецца спартовая сустрэча беларускае моладзі, у якой возьме ўдзел моладзь з Кліўленду, Нью Ёрку, Саўт Рывэру й іншых асяродкаў. Прадбачваюцца наступныя віды спорту: футбол, валейбол, пінг-понг і лёгкая атлетыка.

Ветліва просім беларускую моладзь з тых асяродкаў, якія яшчэ ня маюць сувязі з ладжанай імпрэзай, зьвяртацца па інфармацыі на наступны адрас:

Mr. M. Sienko
24 Herman Ave.
South River, N. J.

**Арганізацыйны Камітэт**

### НОВЫЯ ВЫКЛАДЧЫКІ

З катэдры беларускае філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту былі ў мінулым годзе зь няведамых прычынаў раптоўна адкліканыя ў Менск прафэсары Тарасаў і Бірыла. Іхныя месцы пуставалі цэлы год.

Як даведваемся зь «Нівы», толькі цяпер на іхнае месца прыслалі зь Менску новых выкладчыкаў. Гісторыю беларускае мовы й сучасную беларускую мову будзе цяпер выкладаць А. Жураўскі, які дасюль працаваў у Акадэміі навук БССР, а беларускую літаратуру — М. Лазарук, дасюлешні выкладчык у Менскім Пэдагагічным Інстытуце.

### PROBLEMS OF THE PEOPLES OF THE USSSR

Выйшаў з друку 2-гі нумар воргану Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк). У нумары зьмешчаны наступныя артыкулы: **Алі Кантэмір:** Нацыянальная праблема ў царскай Расеі і ў СССР; **І. Туранюк:** 21-шы зьезд КПСС; **С. Торосян:** Адлюстраваньне савецкай нацыянальнай палітыкі на 21-ым зьезьдзе КПСС; **С. Раманішын:** Школьная рэформа й пытаньне мовы ў СССР; **В. Барысэнка:** Глыбокія зьмены ў савецкай эканамічнай адміністрацыі; **А. Юрчанка:** Шлях паняволеньня й гэнасыду; **Ст. Станкевіч:** Найсьвяжэйшыя праявы нацыянальнага супраціву ў Беларускай ССР; **В. Мусабай:** Камунізм і турка-татарскія народы Ідэль-Уралу; **Алі Сабры:** Афрыканска-азіяцкая канфэрэнцыя ў Каіры.

Апрача гэтага ў часапісе зьмешчана багатая хроніка падзеяў у краінах паняволеных бальшавізмам народаў.

**БЕЛАРУСКАЯ КАЛЬПАРТАЖНАЯ АГЕНЦЫЯ**

мае на складзе наступныя выданьні:
**Michał Federowski:**
**„Lud Białoruski“, tom V.**

Кніга мае 920 бачын, вялікага фармату 20 x 27 см., у цьвёрдай вокладцы з каляровай абгорткай. У кнізе ёсьць 2 000 беларускіх песень: мілосныя, вясельныя, хрэсьбінныя, калядныя, вялікодныя ды інш. Амаль палова песень мае ноты. Тыраж кнігі 1500 экз.

Не павінна быць ніводнага беларускага асяродку, які-б не набыў гэтую капітальную працу. Падрыхтоўваецца да выданьня том VI, у якім будзе зьмешчана далейшых 2 000 песень. Цана кнігі з коштамі перасылкі — 11 дал. 90 ц.

На складзе ёсьць таксама пэўная колькасьць экзэмпляраў у свой час рэзэнзаванае на бачынах «Б-ны» кнігі:

**Anthony Richardson:**
**"No Place to Lay My Head".**
Цана 2 дал. 70 ц.

**Беларуская Кальпартажная Агенцыя**

**УВАГА! УВАГА! УВАГА!**

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны» падае да ведама тым чытачом, якія з тых ці іншых прычынаў ня могуць карыстаць з ганаровых паслугаў нашых прадстаўнікоў і кальпартэраў, што газэту «Бацькаўшчыну», а таксама ўсе кніжныя выданьні «Бацькаўшчыны» можна атрымоўваць беспасярэдня з Адміністрацыі «Б-ны», перасылаўшы адпаведную грашовую належнасьць. Банкавае конта й цана падпіскі «Б-ны» стаіць пры загалоўку газэты. Цана кніжак, выдадзеных выд. «Б-на», час-ад-часу падаецца на апошняй бачыне нашае газэты.**

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны»**

## *Замест фэльетону*

Рэчаіснасьць, аб якой будзе гутарка ніжэй, нагадвае больш на анэкдот. Ня трэба зьдзіўляцца, бо мы маем справу з савецкай рэчаіснасьцяй.

Уявіце, паважаныя чытачы, тыя рэдакцыі газэт, друкарні, чыгуначныя дэпо, розныя прадпрыемствы, арцелі й майстэрні, розныя грамадзкія ўстановы, як, напрыклад, судовыя, пошты й хоцьбы канторы сувязяў, а таксама школы, шпіталі, дзіцячыя дамы, сады й ясьлі ды, нарэшце, становішча гарадоў і іхных жыхароў (а тут справа ідзе толькі пра гарады), якія змушаныя разьмінуцца з сваім назначэньнем і заняцца, дапусьцім, гадоўляй ня толькі гусей, качак і курэй, але й гадоўляй кароў і сьвіней. Бр-р-р... Вы скажаце: гэта немагчыма й наагул зьяўляецца абсурдам. У такім выпадку вы моцна памыляецеся, хоць і мы падзяляем вашую думку. У Савецкім Саюзе, дзе пад партыйным сонцам крочаць да камунізму, зусім і гэта магчыма, г. зн. магчыма ператвараць вышэй пералічаныя прадпрыемствы й установы ў жывёлагадоўчыя фэрмы, а з памешканьняў працаўнікоў і службоўцаў гэтых прадпрыемстваў і ўстановаў ды й з самых гарадоў зрабіць ... сьвінарнікі. Ня верыце! Што толькі ня робіцца ў імя сьветлае будучыні й для дабра савецкага чалавека ...

Пайменна, пастанавіўшы з нагоды сямігадовага пляну «прадаць» дзяржаве ў бягучым годзе тройчы больш мяса, чымся ў мінулых гадох, партыйныя працаўнікі Ішымскага раёну (Цюменскай вобласьці) пастанавілі прыцягнуць да гэтае «ўсенароднае» справы таксама ўсе прадпрыемствы, грамадзкія ўстановы, шпіталі, школы, дзіцячыя дамы й ясьлі й жыхарства самога гораду Ішымы. Напрыклад, рэдакцыю газэты «Ішымская праўда» яны забавязалі адкарміць у 1959 годзе адну сьвіньню, а працаўнікоў рэдакцыі — адкарміць дзесяць сьвіней і 150 галоў птушкі. З свайго боку мясакамбінат павінен адкарміць 150 сьвіней і 40 галоў буйнай рагатай жывёлы, паравознае дэпо адпаведна — 200 і 80, арцель «Кожевник» — 10 і адну, кантора сувязі — 8 і 3 і г. д. Наагул усіх забавязаных 128 прадпрыемстваў і грамадзкіх установаў гораду, у лік якіх уваходзяць таксама шпіталі, школы, сталовыя, дзіцячыя дамы й ясьлі. Ну, ведама, пабочна сталіся забавязаныя таксама іхныя працаўнікі й службоўцы, наагул усё жыхарства гораду, выключаючы партыйную бюракратыю. З гэтае прычыны ў горадзе ўзьнік хаос і лямант: чым карміць, а галоўна дзе гадаваць гэтую накінутую жывую гаспадарку.

Напрыклад, адна працаўніца дзіцячых ясьляў скардзіцца: «Мы з мужыком павінны здаць адну сьвіньню й пяць курэй. Ды дзеці — яны ўсё трое вучацца ў школе — 30 курэй. Кватэра ў нас на другім паверсе, гаражу ня маем. Дзе трымаць такі статак?»

Гарадзкому шпіталю прыпісана выгадаваць дзесяць сьвіней і столькі-ж кароў; ягонаму штату — 30 парасят і 200 курэй. І вось што гаворыць старэйшы лекар: «Мала хто із мэдыкаў можа трымаць сьвіней. На агульнай сходцы пастанавілі выканаць заданьне птушкай. Гэта прасьцей. Мы з жонкай, напрыклад, купілі 8 курэй і здамо. Праўдападобна так зробяць і іншыя...»

Ведама, справа прасьцей з выкананьнем накінутых абавязкаў паасобнымі прадпрыемствамі й установамі. Яны могуць, напрыклад, збудаваць асабнякі для фэрмы ды наняць адпаведных даглядчнікаў або ўстанавіць чаргу. Але-ж ня можа дазволіць на гэта ўспомненая працаўніца дзіцячых ясьляў ці навет лекар. Тым больш яны ня могуць дапусьціць да таго, каб сьвіньні й каровы гадавацца на кухні ці пад ложкам уласнае кватэры, усьцягваючы іх на другі ці на пяты паверх дому. А наагул-жа гэта ўсё зьяўляецца абсурдам і зьдзекам над народам, бо прыклад Ішымы не зьяўляецца вынятакм. Усе калгасьнікі мусяць выгадоўваць сьвіней ці быдла «для дзяржавы», а школы — трымаць кролікаў, гусей і курэй у клясах і школьных сьвятліцах.

Вяртаючыся да прыкладу Ішымы, прасочым рэальнасьць гэтых партыйных мерапрыемстваў і іхны маральны бок. Вышэй мы ўжо гаварылі, што для паасобнага працаўніка гарадзкога прадпрыемства ці ўстановы, маючы голую кватэру (ня думаем, каб гэтыя савецкія працаўнікі й службоўцы мелі свае гаражы пад аўтамашыны), проста немагчыма трымаць сьвіньню ці карову, тым больш «дзяржаўных». Абсурдна таксама рабіць з рэдакцыяў газэт ці з шпіталяў і г. д., а таксама зь іхных працаўнікоў жывёлагадоўчыя фэрмы й фэрмараў жывёлагадоўлі. Яны-ж і бяз гэтага маюць сваю грамадзкую нагрузку, свае заняткі й абавязкі, якія выплываюць з прынцыпу распадзелу працы. Таму немаральна ўскладаць на іх дадатковую працу ды патрабаваць выкананьне яе на свае ўласныя кошты. Падобная пастанова справы выключаецца таксама самымі ўмовамі гарадзкога жыцьця, і ня толькі з практычнага пункту гледжаньня, але й з эстэтычнага. На Захадзе гадоўля сьвіней у горадзе наагул забаронена. І гэта зусім праўдзівая пастанова справы, каб не зрабіць з гарадоў калгасных сьвінарнікаў. Тое-ж самае й з каровамі, каб ня брудзілі тратуары ды разам зь сьвіньнямі й гусямі не распаўсюджвалі чумы. Ды й бяз гэтага, зьяўляючыся прамысловым цэнтрам, цэнтрам культуры й адміністрацыі, горад — гэта зусім праўная працоўная адзінка ў народзе, і вымагаць ад яго большага, асабліва ў галіне жывёлагадоўлі, даволі сьмешна. У іншым выпадку трэба праводзіць палітыку перасяленьня гарадзкога насельніцтва ў раёны сельскай гаспадаркі.

Але не аб гэта ходзіць партыі. Рэальна гэта ці нярэальна, гуманна ці не, ей ходзіць толькі аб выкананьне плянаў. Падобны мэтад спагнаньня й эксплятацыі народу павінен усё-такі гаварыць гэтаму народу пра часовасьць партыйнай каньюнктуры, а не пра нейкі там плянавы прыход да камунізму. Прапагаваны камунізм для партыі — гэта сяньняшняе ейнае жыцьцё паразіта, пра што наглядна гавораць вышэй пададзеныя факты. Трэба спадзявацца аднак, што некалі струны народнага зьдзеку й гневу ўсё-такі павінны трэснуць. На сяньня-ж, хоць і вусьцішна, прыходзіцца сьмяяцца з савецкай рэчаіснасьці, як з жывых анэкдотаў.

**Ч. З.**

### 10 год таму „Бацькаўшчына“ пісала:

... Не марнаваць часу ў бясплоднай тузе і ўздыханьнях, ці — яшчэ горш — у заўсёднай эміграцкай міжсобнай грызьні, а ўзбройвацца й пераўзбройвацца духова да баёў Вялікага Ідучага. Страчаны той чалавек, хто ня мае надзеі на часовасьць нашага бадзяньня па сьвеце вонках Бацькаўшчыны. Ды яшчэ больш небарачным выглядаў-бы й гэны, што вярнуўся-б туды, калі грымне вялікі кліч, з пустымі рукамі, з пустою галавой і душой.

№ 12 (56), 18 травеня 1949 г.

**УВАГА!**

**Праграмы Беларускае рэдакцыі радыя «Вызваленьне» перадаюцца на Бацькаўшчыну ў наступных гадзінах менскага часу:**
**Ад 1-ае да 3-яе гадзіны ночы — на хвалях 31 і 41 мэтраў**
**ад 11-ае да 13-ае гадзіны — на хвалях 17 і 19 мэтраў**
**і ад 22-ое да 23-яе гадзіны — на хвалях 25 і 31 мэтраў**

**Беларуская Рэдакцыя Р. В.**

*

**Праграмы Беларускае рэдакцыі Гішпанскага Нацыянальнага Радыя перадаюцца ад гадз. 18.30 да 18.45 сярэдняэўрапэйскага часу (20.30 — 20.45 — менскага часу) і ад гадз. 20.45 да 21.00 (22.45 — 23.00) на хвалях 32,05 м. (9363 kc/s) і 42,22 м. (7105 kc/s).**

**Беларуская Рэдакцыя Г. Н. Р.**

### ПОШУКІ

Захаркевіч Іван шукае **Буневіча Ўладзімера,** нар. у 1920 г у вёсцы Мокрава, Лунінецкага раёну, вывезенага ў 1943 г. гэстапам у Нямеччыну (былі чуткі, што, быццам, у Шчэцін). Весткі ветліва просіцца слаць на наступны адрас:

Jan Zacharkiewicz
2618 W 17 Str.
Chicago, Ill., USA

### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.
**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.
**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.
**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.
**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.
**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**